*Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!*




# Літаратура і Мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ПЯТНІЦА, 26 жніўня 1988 г. № 34 (3444) ⊙ Выходзіць з 1932 г. ⊙ Цана 10 кап.


*У Цэнтральным Камітэце КПБ*

## Аб 70-годдзі Беларускай ССР і Кампартыі Беларусі

Цэнтральны Камітэт Кампартыі Беларусі прыняў пастанову «Аб 70-годдзі Беларускай ССР і Кампартыі Беларусі». У ёй адзначаецца, што за сем дзесяцігоддзяў сацыялістычнага развіцця Савецкая Беларусь ператварылася ў індустрыяльную рэспубліку з шматгаліновай сельскай гаспадаркай, высокім навукова-тэхнічным патэнцыялам. Значна ўзрос матэрыяльны і духоўны ўзровень жыцця насельніцтва.

У сучасных умовах камуністы, працоўныя Беларусі разам з усёй партыяй, савецкім народам настойліва ажыццяўляюць стратэгічны курс XXVII з'езда КПСС, XIX Усесаюзнай партканферэнцыі на ўсебаковае і рэвалюцыйнае абнаўленне савецкага грамадства, паскарэнне яго сацыяльна-эканамічнага развіцця. Разгортваецца работа па паглыбленню радыкальнай эканамічнай рэформы, далейшай дэмакратызацыі жыцця грамадства і партыі.

Прынята рашэнне адзначыць 70-ю гадавіну Беларускай ССР і Кампартыі Беларусі як важную палітычную падзею, вялікае свята ў жыцці рабочага класа, калгаснага сялянства, інтэлігенцыі і моладзі, усіх працоўных рэспублікі.

Абкомам, гаркомам, райкомам КПБ, пярвічным партыйным арганізацыям даручана забяспечыць шырокае растлумачэнне сусветна-гістарычнага значэння Вялікага Кастрычніка, яго ўплыву на рэвалюцыйныя пераўтварэнні ў Савецкай Беларусі. Пераканаўча раскрываць арганічную сувязь здзяйсненняў Кастрычніцкай рэвалюцыі з цяперашняй перабудовай усіх бакоў жыцця савецкага грамадства.

Падрыхтоўку і святкаванне юбілею прапанавана выкарыстаць для ўзмацнення патрыятычнага і інтэрнацыянальнага выхавання, далейшага ўздыму вытворчай і грамадска-палітычнай актыўнасці камуністаў і беспартыйных, камсамольцаў і моладзі, усіх працоўных рэспублікі ў барацьбе за практычную рэалізацыю рашэнняў XXVII з'езда партыі, установак XIX Усесаюзнай канферэнцыі КПСС.

Арганізатарскую і палітычную работу партыйных, прафсаюзных, камсамольскіх камітэтаў і арганізацый, савецкіх і гаспадарчых органаў трэба падпарадкаваць, гаворыцца ў дакуменце, задачам паглыблення радыкальнай эканамічнай рэформы, паляпшэння харчовага забеспячэння, вырашэння жыллёвай праблемы, павелічэння вытворчасці тавараў народнага спажывання, карэннай перабудовы сферы абслугоўвання насельніцтва. Усямерна ўмацоўваць палітычную згуртаванасць, дружбу і брацтва працоўных рэспублікі з усімі народамі СССР, павышаць адказнасць працоўных калектываў за выкананне дагаворных абавязацельстваў па пастаўках прадукцыі і вырабаў у іншыя рэгіёны, за павелічэнне ўкладу Савецкай Беларусі ў эканоміку краіны.

Разгарнуць масавае сацыялістычнае спаборніцтва за паспяховае выкананне планавых заданняў 1988 года і дванаццатай пяцігодкі, за дастойную сустрэчу 70-годдзя Беларускай ССР і Кампартыі Беларусі.

Для арганізацыі і правядзення ў рэспубліцы мерапрыемстваў, звязаных з будучым юбілеем БССР і Кампартыі Беларусі, утворана камісія пад старшынствам Кавалёва М. В. — старшыні Савета Міністраў БССР.

Партыйным камітэтам і арганізацыям сумесна з прафсаюзнымі і камсамольскімі органамі, іншымі грамадскімі фарміраваннямі прапанавана распрацаваць і ажыццявіць канкрэтныя арганізацыйна-палітычныя мерапрыемствы, прысвечаныя 70-годдзю БССР і Кампартыі Беларусі, у якіх прадугледзець:

— віншаванне актыўных барацьбітоў за справу Вялікага Кастрычніка, ветэранаў партыі, рэвалюцыі і працы, удзельнікаў грамадзянскай і Вялікай Айчыннай войнаў, воінаў-інтэрнацыяналістаў. Асаблівую ўвагу ўдзяліць паляпшэнню іх жыллёва-бытавых умоў, сацыяльнага забеспячэння і медыцынскага абслугоўвання;

— рэалізацыю дадатковых мер па ўвекавечванню памяці загінуўшых барацьбітоў за перамогу Савецкай улады ў Беларусі, абаронцаў сацыялістычнай Айчыны, па добраўпарадкаванню, рэканструкцыі і абнаўленню помнікаў і абеліскаў, мемарыяльных знакаў, месц пахавання. У дні святкавання юбілею арганізаваць ля гэтых месц мітынгі, ускладанне вянкоў і кветак, іншыя масава-палітычныя мерапрыемствы, прысвечаныя светлай памяці загінуўшых герояў;

— правядзенне ў сістэме палітычнай і эканамічнай вучобы, масавых форм прапаганды тэарэтычных і навукова-практычных канферэнцый, конкурсаў рэфератаў па праблемах развіцця палітычнай сістэмы, нацыянальных адносін у СССР, павышэння культуры міжнацыянальных сувязей, дзейнасці Кампартыі Беларусі па рэалізацыі рашэнняў XXVII з'езда партыі, XIX Усесаюзнай канферэнцыі КПСС;

— арганізацыю ў калектывах прадпрыемстваў, навучальных і іншых устаноў, па месцы пражывання насельніцтва цыклаў лекцый, палітычных гутарак, дыскусій, сустрэч працоўных і моладзі з ветэранамі партыі, вайны і працы, выступленняў кіраўнікоў партыйных і савецкіх органаў, грамадскіх арганізацый, вучоных і спецыялістаў, правядзенне кінафестываляў, мастацкіх выставак, спартыўных спаборніцтваў, іншых масава-палітычных мерапрыемстваў, прысвечаных юбілею.

Інстытуту гісторыі партыі пры ЦК КПБ, Мінскай вышэйшай партыйнай школе сумесна з АН БССР і Міністэрствам народнай асветы БССР даручана правесці ў снежні г. г. навукова-тэарэтычную канферэнцыю, прысвечаную 70-годдзю Беларускай ССР і Кампартыі Беларусі. Выдавецтву «Беларусь» выпусціць матэрыялы канферэнцыі асобным зборнікам.

Прадугледжваецца таксама: выпуск палітычнай і мастацкай літаратуры, фотаальбомаў, буклетаў, календароў, плакатаў юбілейнай тэматыкі; правядзенне ў лістападзе г. г. месячніка па прапагандзе і распаўсюджанню грамадска-палітычнай і сацыяльна-эканамічнай літаратуры, рэспубліканскай кніжнай выстаўкі; арганізацыя перасовачнай рэспубліканскай фотавыстаўкі аб барацьбе працоўных за ажыццяўленне рашэнняў XXVII з'езда КПСС, XIX Усесаюзнай партыйнай канферэнцыі, аб дасягненнях Беларусі за 70 гадоў Савецкай улады, паказ яе ва ўсіх абласных цэнтрах і буйных гарадах рэспублікі.

Рэдакцыям газет і часопісаў, тэлебачання і радыёвяшчання даручана ўсебакова асвятляць ход падрыхтоўкі і святкавання юбілею. Шырока і ярка адлюстроўваць дасягненні працоўных Беларусі за гады Савецкай улады ў эканоміцы, сацыяльнай і культурнай галіне. Публікаваць нарысы аб людзях, якія ўвайшлі ў гісторыю рэспублікі, складаюць яе нацыянальную гордасць. Пераканаўча раскрываць, што перабудова — жывы працяг Кастрычніцкай рэвалюцыі, далейшае развіццё сацыялістычнай дэмакратыі, вяртанне сацыялізму ленінскага аблічча. Прапагандуючы дасягненні БССР, аргументавана паказваць, які ўклад яна ўносіць у скарбонку краіны, што атрымлівае з саюзнага фонду для ўласных патрэб. Паслядоўна адлюстроўваць ролю Кампартыі Беларусі ва ўсіх здзяйсненнях рэспублікі.

30 снежня 1988 г. у г. Мінску плануецца правядзенне сумеснага ўрачыстага пасяджэння Цэнтральнага Камітэта Кампартыі Беларусі і Вярхоўнага Савета Беларускай ССР, мінскіх абкома і гаркома КПБ, абласнога і гарадскога Саветаў народных дэпутатаў з удзелам прадстаўнікоў партыйных, савецкіх і грамадскіх арганізацый рэспублікі, калектываў працоўных горада Мінска, воінаў Савецкай Арміі.

У снежні г. г. пройдуць сумесныя ўрачыстыя пасяджэнні абласных, гарадскіх, раённых камітэтаў партыі і адпаведных Саветаў народных дэпутатаў з удзелам прадстаўнікоў працоўных калектываў, грамадскіх арганізацый і воінскіх часцей, а на прадпрыемствах, будоўлях, у калгасах і саўгасах, навучальных і іншых установах — урачыстыя сходы працоўных у гонар 70-годдзя БССР і Кампартыі Беларусі.

### *Прэстыж роднай мовы*

**У рэзалюцыі XIX Усесаюзнай канферэнцыі КПСС «Аб міжнацыянальных адносінах» запісана: «Важнейшы прынцып нашай многанацыянальнай дзяржавы — свабоднае развіццё і раўнапраўнае выкарыстанне ўсімі грамадзянамі СССР родных моў, авалоданне рускай мовай, добраахвотна прынятай савецкімі людзьмі ў якасці сродку міжнацыянальных зносін. Неабходна ствараць усе ўмовы, каб нацыянальна-руская двухмоўнасць развівалася гарманічна і натуральна, з улікам асаблівасцей кожнага рэгіёна, была свабодная ад фармалізму».**

**Ясная, дакладная фармуліроўка. Што робіцца ў Беларусі па рэалізацыі ўстановак партыйнага форуму, як міністэрствы, ведамствы, грамадскія арганізацыі вырашаюць гэтыя праблемы? БЕЛТА падрыхтавала некалькі інтэрв'ю з кіраўнікамі Міністэрства народнай асветы БССР, Міністэрства культуры рэспублікі, Дзяржкамвыда, Дзяржтэлерадыё, Саюза пісьменнікаў БССР, Інстытута мовазнаўства АН БССР.**

**Пачынаецца цыкл гутарак з першым намеснікам міністра народнай асветы БССР Л. К. СУХНАТ.**

### Людміла СУХНАТ:

## «ПАЧНЁМ СА ШКОЛЫ»

**— Людміла Канстанцінаўна, мы невыпадкова вырашылі адкрыць гэты цыкл гутарак з вамі. Не спрашчаючы існуючую сітуацыю, не драматызуючы яе, трэба прызнаць, што праблема развіцця беларускай мовы патрабуе неадкладнага вырашэння. Бясспрэчна і тое, што пачынаць яе неабходна са школы...**

— Згодна з вамі. Пасляваенны час пакінуў нам немалы груз супярэчнасцей, звязаных са сферай ужывання беларускай мовы. Але думаю, праблемы гэтыя ў апошнія гады некалькі «загаварылі». А адным выражэннем занепакоенасці іх не вырашыць. Патрэбны не лозунгі і заклікі, а канкрэтныя справы.

**— Тады ў такім жа напрамку пастараемся пабудаваць і нашу гутарку. Першая прапанова — хоць бы коратка абрысуйце карціну, якая склалася з вывучэннем роднай мовы ў школе.**

— Практычна ўсе школы з беларускай мовай навучання знаходзяцца ў сельскай мясцовасці, з 1953 па 1988 год іх стала менш амаль у 2,5 раза. Але нават у іх далёка не заўсёды і далёка не ўсе дысцыпліны выкладаюцца на беларускай мове — не хапае настаўнікаў-прадметнікаў, якія валодаюць ёю.

У лютым 1987 года Міністэрства асветы БССР выдала спецыяльны загад, у якім вызначаны меры па паляпшэнню выкладання беларускай мовы. Не буду стамляць пералічэннямі, скажу толькі, што гэта дастаткова сур'ёзная праграма, якая вызначыла нашу работу ў гэтым напрамку на некалькі гадоў наперад. Падкрэслю: сёння мы настойліва прапануем выканкомам мясцовых Саветаў народных дэпутатаў адкрываць школы і класы з беларускай мовай навучання. Думаецца, у сёлетнім годзе ўсе жадаючыя атрымаюць магчымасць вучыць дзяцей на роднай мове...

**— Прабачце, што перабіваю, але такая магчымасць была прадастаўлена і ў мінулым годзе. І калі мы правільна інфармаваны, жадаючых аказалася нямнога — з 25 тысяч бацькоў-гараджан, якія падалі заявы аб прыёме дзяцей у школы, толькі 113 чалавек выбралі класы з беларускай мовай навучання.**

— Гэта сапраўды так. На жаль, не лепшае становішча і ў сёлетнім годзе. Цяпер у Мінску пададзена каля 300 заяў, у іншых гарадах значна менш. Вядома, «сілавым» метадам, націскам на бацькоў гэту праблему не вырашыць. Выбар мовы навучання дзяцей у школе павінен, несумненна, ажыццяўляцца на аснове поўнай добраахвотнасці, асабістай перакананасці і ўсведамлення кожным жыхаром рэспублікі грамадскай карыснасці ведання некалькіх моў — аднаго з

(Заканчэнне на стар. 2).

## Паэтычны водгук

**Рыгор БАРАДУЛІН**

### Памяці ахвяр у Курапатах

Моцы больш нестае
У атлантаў пакут.
Судны дзень настае,
На зямлі —
Страшны суд.

Ад матык і ад віл,
Ад сталоў, ад станкоў
Пастаяльцы магіл
Лямант шлюць да вякоў.

З-пад пяці — і — шасці -
концых зорак, крыжоў
Страх, жывы ў забыцці,
Па забойцаў прыйшоў.

Страх не знік, не сканаў,
Ён вярнуўся назад
З ям, дзе Ўнутраных спраў
Лютаваў Наркамат.

Страх хіба што на міг
Перапоўніць дупло,
Дзе ў забойцаў саміх
Сэрца чуцца магло.

Катам цесна ў катле —
Пекла любіць чыны.
Хай марудна ў смале
Закіпаюць яны!

### Торф гісторыі

Зянону ПАЗНЯКУ.

Стагоддзі — не гаі
збялелакорыя,
Звідна спавітыя смугою гімна,
тагоддзі ад пакут
і здзекаў хворыя
Прытойваюць архівы —
Торф гісторыі,
Які гарыць уедліва і дымна.

Ступае ісціна
па жэрдцы-палачцы,
Каб ацалець, хаваецца
няшчадна.
Архівы —
Міжусобіц усыпальніцы
І сведкі лютыя,
Таму і паляцца,
Гараць, як купа,
Глыбліва і чадна.

І сёння дым віецца
над архівамі,
Тут завіхацца звыклі
без прынукі
Зрабіліся забойцы палахлівымі,
Спяшаюць заручыцца
дырэктывамі
І ад крыві адмыць
Сляпыя рукі.

## Запрашае «Сябрына»

**У Вільнюсе жыве нямала беларусаў. Склалася так, што якога-небудзь культурнага асяродка ў нас доўгі час не было. І вось нядаўна пры літоўскім рэспубліканскім Палацы культуры прафсаюзаў быў утвораны клуб аматараў беларускай народнай творчасці «Сябрына».**

**У склад клуба ўвайшлі прадстаўнікі розных нацыянальнасцей — гэта і рускія, і літоўцы, і палякі і, канечне ж, беларусы. Усяго па стану на дату рэгістрацыі клуба ва ўпраўленні культуры гарвыканкома Вільні —26 чалавек. Сярод іх працаўнікі прадпрыемстваў і арганізацый, пенсіянеры, студэнцкая моладзь.**

**Галоўнымі напрамкамі дзейнасці клуба з'яўляюцца: вывучэнне беларускай народнай творчасці (як самой па сабе, так і ва ўзаемасувязі яе з творчасцю іншых народаў); падрыхтоўка культурнай праграмы, з якой мы маглі б прыняць удзел у канцэртах, інтэрнацыянальных вечарах дружбы, выстаўках, сустрэчах; прапаганда і папулярызацыя беларускай народнай творчасці сярод насельніцтва горада і яго наваколля.**

**Да сістэматычных заняткаў клуб мае прыступіць у верасні. А пакуль што вырашаюцца арганізацыйныя пытанні: дзе, калі і па якіх днях збірацца; каго запрасіць да ўдзелу ў рабоце клуба; дзе ўзяць сродкі на арганізацыю і правядзенне тых ці іншых мерапрыемстваў.**

**За больш падрабязнай інфармацыяй просім звяртацца на адрас: 232001, г. Вільнюс, вул. Даўкантаса, 5, Літоўскі рэспубліканскі Палац культуры прафсаюзаў, клуб аматараў беларускай народнай творчасці «Сябрына», альбо званіць па тэл. 61-42-78 ці 46-16-24.**

**В. СТЭХ,**
**сакратар савета клуба «Сябрына».**
г. Вільнюс.

## НА ЖЫЦЦЁВЫХ СКРЫЖАВАННЯХ

**Міхась ДАНІЛЕНКА**

# ІВАНЬІ ДЫ МАР'І...

## У трывожныя дні

Тады адчувальна-такі прыгравала вясновае сонца. Прыемна было пасядзець на лавачцы каля тыну. Мар'я, жонка Валянціна Кульгавага, з дачкой бяліла сцены клуба: з калгаснага праўлення пазванілі, што мае адбыцца сход. Мар'я замазвала розныя надпісы, што надрапалі дзецюкі, якія прыязджалі на канікулы да дзядоў і бабуль, і са злосцю бурчала:

— І собіла ж нялёгкая тут сноўдацца ды нахабнічаць. Па мне, дык я б ім тры дні есці не давала.

Але, мусіць, у глыбіні душы Мар'я адчувала нейкую долю і ўласнай віны: гэта ж і яе пляменнік панурысты Вовік, які рэгулярна наведваецца да бабулі, а жыве часцей у іх, Кульгавых, не раз маляваў цвіком на тых сценах, а то высаджваў і шыбы ў вокнах...

Паставілі лаўкі, іх прынеслі з суседніх дамоў (клубныя крэслы бязлітасна паламалі тыя, хто летам наязджаў з гарадоў у Багатую Граду); стол засланлі чырвоным абрусам.

Помніцца, у тыя дні калгас плаціў даглядчыку жывёлы Валіку Кульгаваму кожны месяц па дзесяць рублёў, каб прыглядваў за клубным будынкам. Сам Кульгавы даглядаў маладняк — ездзіў кожны дзень за восем кіламетраў у Каўпень, дзе знаходзіцца цэнтр гаспадаркі. Дзе ўжо яму, малапісьменнаму чалавеку, было думаць пра які культурны адпачынак у клубе, — хоць бы ў час прымкнуць дзверы. А то, няўрокам кажучы, гэтыя шыбенікі па бервяну расцягнуць увесь будынак. Вунь ужо дабраліся да грубкі: выцягнулі заслонку...

Пазней да клуба падкаціла «Волга». Прыехалі старшыня калгаса Кугуенка і новы старшыня сельсавета Максіменка. Васіля Аляксеевіча Кугуенку я трохі ведаў, хоць афіцыйна сустракацца не даводзілася. Шыракаплечы, мажны, з густой чорнай чупрынай, ён быў сама ў гадах. Да таго, як узначаліць калгас, Кугуенка працаваў у Лоеве галоўным заатэхнікам па штучнаму асемяненню жывёлы. Таму, натуральна, калі ён прыйшоў у «Дружбу», адразу загарэўся жаданнем палепшыць пароднасць кароў (тут была ў асноўным чорна-пярэстая). Характар у Кугуенкі, ведаў я, быў рэзкаваты; промахаў у рабоце і злоўжыванняў ён нікому не даравАў. Таму, відаць, на пачатку яго працы той-сёй, каму пры былым старшыні Вароніне жылося прывольна, зларадна крывіў губы і зласліва гаварыў: «У яго нічога не палучаецца... Вось у Вароніна было...» Аднак справы ў гаспадарцы няўхільна ішлі ўгору: павышаліся надоі, ураджайнасць. У жывёлагадоўчым гарадку выраслі новыя кароўнікі. Не забываўся новы старшыня і на сацыяльную сферу: у Каўпені на вуліцы Сонечнай, першыя дамы якой засялілі яшчэ пры Вароніне, выраслі новыя каменіцы. Побач з Домам культуры пачалі ўзводзіць будынак праўлення калгаса. (Забягаючы наперад, скажу, што бухгалтэрыя і канцылярская «гаспадарка» туды перабіраліся, а ў Доме культуры, такім чынам, аслабанілася плошча для заняткаў шматлікіх гурткоў). Калгас узнагароджваўся Пераходным Чырвоным Сцягам ЦК КПСС, Савета Міністраў СССР і ЦК ВЛКСМ.

Новы старшыня сельсавета (яна змяніла на гэтай пасадзе Вароніна) Надзея Аляксандраўна Максіменка была родам з Украіны, як і Кугуенка. Да таго скончыла Чарнігаўскі педінстытут, добра ведае беларускую літаратуру. З будучым мужам пазнаёмілася, калі той вучыўся ў Лоеўскім педвучылішчы. Чытае творы Мележа, Шамякіна, Брыля...

— Важнае ў нас сёння заданне, — гаварыла мне Надзея Аляксандраўна. — Выклікалі нас з Васілём Аляксандравічам сёння на нараду ў райком. Чакаецца новы выхлап на Чарнобыльскай атамнай станцыі. Трэба папярэдзіць людзей. Але каб не было панікі, хоць час, самі разумееце, трывожны.

— А ці далёка адсюль да Чарнобыля? — пацікавіўся я.

— Я там быў. У мінулым годзе па справах ездзіў, — адказаў Кугуенка. — Калі напрамую лічыць, дык усяго якіх кіламетраў семдзесят будзе.

Між тым, у памяшканне клуба, якое прапаліла Мар'я з Валікам, патроху пачалі збірацца людзі—у асноўным пенсіянеры. Праўда, на пярэдняй лаўцы паблісквала лысіна Івана Крупейчанкі. Ён працаваў страхавым агентам. Кожны панядзелак дабіраўся ў райцэнтр, а пасля гойсаў на веласіпедзе па аддаленых вёсках — заключаў дагаворы на страхаванне ўласнай і арцельнай маёмасці (дарэчы, страхоўку за свой дом я рэгулярна плачу Івану).

— Вы ж хоць нас, старых, не забывайце, — падала голас Лёкса, вёрткая не па гадах жанчына. — А то забудзецеся. А каму мы патрэбны?

— Не бойцеся. Ніхто вас не пакіне, — падняўшыся за сталом, загаварыў Кугуенка. — Мы і прыехалі, каб папярэдзіць вас. Калі пазвонім па тэлефоне, то трэба будзе апавясціць усіх. Варта падумаць, які сігнал падаць у трывожную хвіліну.

Тэлефоны былі ў Рыгора Карася, які некалі працаваў старшынёй сельсавета, і ў Валянціна Кульгавага. Затое ў вёсцы ні ў каго не было заваляшчага нарога ад плуга ці кавалка рэйкі, па якіх можна пасля біць жалезным шворнам.

— А ў мяне і радыё не працуе, — прызнаўся Карась. — Можна, вядома, забрацца ў падполле: бульбы там няма, — толькі хто скажа, колькі давядзецца там сядзець.

— Каля слупа насупраць маёй хаты я прыб'ю перакладзіну, — прапанаваў Валік. — А кавалак жалеза з дзіркай, каб падвесіць, знайду ў сваім ламаччы; яго ў мяне за хлявом хапае.

— Аб тым, каб вуліца вашай вёскі выглядала прыстойна, мы пагаворым у другі раз, — сказала Максіменка. — А цяпер галоўнае — спакойна працаваць, не панікаваць...

— І выконваць асноўныя папярэджанні, каб не зашкодзіла здароўю радыяцыя, — гаварыў далей Васіль Аляксандравіч. — Без панікі, але і недаацэньваць сур'ёзную небяспеку мы не можам.

Зайшла размова, каб кожны зрабіў сабе марлевую павязку. Але дзе знойдзеш кавалак той марлі?

— Марлі, мой галубок, у нас днём з агнём не сыскаць, — сказала Лёкса.

Некалі яна пражыла пару гадоў у дачкі аж у Краснаярску, а ў Градзе прадала свой дом. А пасля, як пабачыла свету і паспытала, які той мёд у далёкім горадзе, вярнулася назад. Купіла сабе хату, а пасля сышлася з худым нелюдзімым чалавекам Касцеем і абодва ціха дажывалі свой век. Лёкса—кабета, якая за словам у кішэню не палезе.

— Дзе ж былі вы, кіраўнікі, што не паклапаціліся, каб загадзя прывезлі сюды колькі метраў той марлі? — крыва ўсміхнулася яна. — А цяпер хіба праз сціснуты кулак давядзецца дыхаць. Радыё тое каторы ўжо дзень толькі шэпча. Ледзь мацней падзьме вецер, дык адразу то зазямленне, то яшчэ якое ліха на яго нападзе. Ці ж разбярэш, што яно там мармыча?

— Супакойцеся, — падала голас Максіменка. — Гэта не толькі наш промах. У Лоеве — бачыла сама — тых масак нашылі столькі, што смеху варта. Ці ж думалася, што такая бяда абрынецца нечакана?

Кугуенка расказаў, у якім адзенні лепш хадзіць. Папярэдзіў, каб асабліва не высоўваліся без патрэбы на вуліцу, зачынялі шчыльна вокны: радыяцыйны пыл пранікае праз малюсенькую шчыліну. Кіраўнікі тады доўга размаўлялі шчыра, адкрыта з людзьмі. І ў які раз падумалася: якія мы бяспечныя, як не ўмеем своечасова падрыхтавацца, каб у трывожную часіну быць гатовым сустрэць бяду.

За вокнамі клуба раскашавала вясна. Набрынялі пупышкі на галінах бярозы. Пахучая таполя, што расла ля будынка, здавалася, вось-вось заструменіць прыемны пах. Матылёк прыгрэўся на смалістай дошцы і пырхнуў, растаяў у блакіце. Над нагрэтым паркам трымцела мроіва. І шпакі бесклапотна пасвіствалі на грушах каля шпакоўні. Шпакоўні тыя зрабілі юннаты Літвінавіцкай сярэдняй школы, што на Кармяншчыне; перад імі я некалі выступаў — расказваў аб навінах беларускай літаратуры. На водаНапорнай вежы, якую даўно аблюбавалі буслы, чакала птушак ладна набудаваная буслянка. Каля самага клуба ветрык ганяў у сажалцы хвалі. Колькі дзён назад я бачыў, як ля яе апусцілася вялікая чарада чаек. Чайкі былі непрывычныя для нашых мясцін, марскія — з шырокім размахам крылляў. Птушкі доўга кружылі над сажалкай, трывожна крычалі, а потым апусціліся на яе адлюстраваную паверхню. Праўда, доўга не былі. Падняліся высока ў небе, пакружылі і паляцелі, зніклі ў бясхмарным небе.

— Мусіць, спяшаюцца на Каҳоўскае мора, — выказала здагадку жонка.

Цяпер, пасля таго, як расказалі пра аварыю на Чарнобыльскай станцыі, неяк па-іншаму я глядзеў і на сажалку (па ёй плавалі Валікавы гусі), і на грушы ля майго дома, дзе задумліва перасвістваліся, па-кашачы перамаўляліся шпакі, і на вуліцу, на якой, шчыра кажучы, хапала рознага друзу.

З таго разу Кугуенку я не бачыў. А вось Надзея Аляксандраўна з мужам на ўласным «Запарожцы» два разы прыязджалі ў вёску. Справа ў тым, што, як помню, у Багатай Градзе была крама. За апошнія гады непадалёк ад клуба райспажыўсаюз узвёў прыстойны будынак. Сцены абабілі ізаплітамі, пакрылі дах шыферам. Зрабілі высокі цагляны ганак. (На той ганак аднойчы, да Указа аб барацьбе з п'янствам, ледзь не на карачках узбіраўся ляснік Іван Каваленка).

Прадаўцом у краме рабіла Мар'я Каваль — жанчына з сярэдняй адукацыяй. Мне і раней казалі, што Мар'я часцяком заглядвае ў шклянку, ды, па праўдзе прызнацца, я таму не верыў. Ружавашчокая Мар'я (яны разышліся з мужам-п'яніцам і адна гадавала дзвюх дачок; а старэйшы сын вазіў на аўтамашыне нафтавікоў) заўсёды сустракала ветліва, з людзьмі была пачцівай. Ды неяк ранняй вясной Мар'я так набралася ў краме, што не магла падняцца з прамёрзлай зямлі. Трэба было замыкаць краму. Спалоханы Валік прыбег да мяне і з маім зяцем адвезлі Мар'ю на цялежцы (балазе я тую цялежку ледзь даставіў з Гомеля ў Багатую Граду) у другі канец вёскі дадому. Дочкі разулі маці, паклалі на ложак, прыкрылі коўдрай...

Пасля ў Мар'і ўчастковы знайшоў брагу — яна рыхтавалася з сынам гнаць самагонку, — і кар'ера прадаўшчыцы для яе на тым і закончылася. Мар'я пачала летам з Кульгавым пасвіць калгасных цялух. А старшыня сельсавета прыехала на «Запарожцы» ў вёску падшукаць новага прадаўца.

Але хто згодзіцца стаць за прылавак? Старэйшыя, вядома, не маглі: трэба было гаспадарчыя тавары прывозіць аж з Лоева. Паспрабуй знайдзі аўтамашыну ці трактар з прычэпам, ды ўпрасі, каб хто нагрузіў ці згрузіў скрынкі або мяхі з мукой, — дарэмная справа. А маладзейшыя наадрэз адмаўляліся: клопатна ды і выгады ніякай ад той крамы не бачылася.

— Я вельмі ж хворая,—казала Галіна — жонка трактарыста Толіка Цімошчанкі. — Як прысяду, дык у маёй галаве ўвесь свет пераварочваецца...

— І я, людзечкі, людзь ногі цягаю, — скардзілася Надзеі Аляксандраўне Аксеня — жонка страхавога агента Івана. — А вунь жа апошні стажок сена за гародамі застаўся. Трэба ж як-небудзь кароўку трымаць. А чым яе карміць? І вы з гэтай просьбай сваёй. Дालібог, не магу: я ўжо немаладзёнка якая...

Пасля мы з жонкай растлумачылі наіўнай старшыні сельсавета, што ў Крупейчанкаў не адзін яшчэ стажок сена ёсць. Ёсць і дзве каровы. І засявае Іван, як і некаторыя іншыя ў вёсцы, не адну сядзібу. Дык ці ж не выгадней ім вырошчваць свіней, цялят, каб потым іх прадаць, чым марнець за тым прылаўкам ды падлічваць вечарам сірочую грашовую выручку?

...З таго часу ў вёску раз у тыдзень (звычайна ў сераду) з Лоева прыязджае аўтакрама. Разбітны шафёр (ён жа і прадавец) спыняе машыну насупраць двара Валянціна Кульгавага, адкідвае задні борт, — атрымліваецца своеасаблівы прылавак. У пустыя мяхі, што прыносяць з сабой вяскоўцы, прадавец кідае цяжкія, як цэгла, дрэнна выпечаныя боханы хлеба. Часам прывозіць яшчэ пячэнне, макароны-«шасцяронкі», малочныя пернікі Бабруйскага хлебазавода. Ну, і тавары першай неабходнасці — гаспадарчае мыла, часам мыцельны парашок.

Калі бывае цёпла, у сераду на бярвеннях, што амаль заўсёды ляжаць паблізу (іх навазілі Валікавы зяці і сын) садзяцца Рыгор Карась, леснікі Іваны, Мар'і, (іх многа) і чакаюць фургон. Гавораць пра выбары новага прэзідэнта ў Амерыцы, пра тое, што цяпер можна смела сказаць праўду і табе трасцай не вылезе ўбок тая праўда... А на тэлеграфным слупе, з падпоркай, дзе некалі Кульгавы вешаў жалезную заслонку ў трывожныя дні, цяпер шафёр-прадавец прыбіў

(Працяг на стар. 4).

**Першая частка вясковых замалёвак М. Даніленкі змешчана ў «ЛіМе» за 8 красавіка г. г.**

# ІВАНЫ ДЫ МАР'І...

(Працяг. Пачатак на стар. 3).

шыльду. На ёй напісана: «Аўтамагазін працуе з 15 да 16 гадзін». Але, як правіла, ніколі аўтакрама не прыязджае ў гэты час: акрамя Багатай Грады ёй трэба пабываць яшчэ ў добрым дзесятку вёсак. І якраз у гэты час...

## Іван і Ульяна

Як толькі надыходзіць зіма, ляснік Іван Анісавец запрагае ў сані каня, бярэ сякеру і едзе ў лес «па розкі», як ён кажа. Там нацярэблівае значную кучку гнуткіх бярозавых галінак, увязвае лейцамі і прывозіць у двор. І так ён шыбуе ў лес некалькі дзён запар, пакуль ля ганка не вырасце высокая капа «розак». Тады Іван вострыць на наждаку нож, разматвае скрутак дроту і пачынае вязаць... венікі. Шмат венікаў. Часам тысячу, часам — як надарыцца больш вольнай часіны — тры тысячы. Лясніцтва адпускае план. Ляснік яго выконвае: у гарадах дворнікам вунь колькі трэба мётлаў, каб падмятаць тратуары. За кожны здадзены венік Іван пасля атрымае... дзевяць капеек. Але паспрабуй навязаць тых тры тысячы венікаў. Не дзіўна таму, што калі позна вечарам чалавек змружвае павекі, перад яго вачыма высяцца венікі, венікі. Цэлая гара венікаў.

Іван — чалавек негаваркі, замкнуты. Можа прабыць з табой цалюткі дзень і сказаць усяго адно-два словы. Затое яго жонка Ульяна перагаворыць дзесяцярых. Уласна, у іх доме галоўная яна. Як скажа Ульяна — так і будзе. Задумала Ульяна выгадаваць каня. (Кожнаму лесніку паложана яго мець, але выгадаваны стане як бы сваім). Іван прывёз з лясніцтва кволае худое жарабя. Рэбры яго выпіналі, як скабы. Доўга мэнчылася жанчына, адпайвала жарабя малаком, радавалася, калі тое перастала пахіствацца на цыбатых ножках, а потым выпрастала хвост - мяцёлачку і панеслася рыссю па двары.

— Будзе харошы конь! — радасна аб'явіла Ульяна.

Іван, як звычайна, толькі хмыкнуў. Не пярэчыў ён, калі жонка выходжвала коніка, давала яму мешанку, акрайчыкі хлеба. Маўчаў, калі жонка рынулася адваёўваць каня, бо нейкі хіжак напісаў у райвыканком, што Анісавец незаконна прыдбаў сабе каня. Хто ведае, колькі здароўя і нерваў страціла жанчына, пакуль даказала, што конь патрэбен яе мужу, лесніку Івану, што ў другога лесніка Івана Каваленкі —таксама конь. Толькі выгадаваў яго не ён... Трэба ж ледзь не кожны дзень ездзіць у лес, на дзялянкі, дзе праводзяцца высечкі, робіцца так званае прасвятленне, нарыхтоўваецца для гаспадарак дзелавая драўніна.

У Івана двое дзяцей. Старэйшы Мікалай працуе ў мясцовым райкоме партыі. Дарос да загадчыка аддзела; жонка яго — у мясцовым музеі. Ульяна з першых дзён не ўпадабала нявестку: не кідаецца тая да гаспадарчай работы, нехапаткая, як яна кажа.

Неяк надарылася быць Івану ў Лоеве (ездзіць ён туды рэдка), і чалавек дзівіўся, як нявестка — лічы зялёнае дзяўчо — расказвала яму, якія тут ішлі жорсткія баі ў сорак трэцім. Цяжка было фарсіраваць шырачэзны Дняпро 65-ай арміі генерала Батава. Шмат хто навечна застаўся ў тыя халодныя асеннія дні на дняпроўскіх кручах. Непадалёк адсюль пахаваны вядомы ўзбекскі паэт Султан Джура... Іван успамінаў тады, як у галодныя дні, калі нашы часці з баямі рушылі вызваляць Рэчыцу, Калінкавічы, Мазыр, ён разам з вольнанаёмнымі дзяўчынкамі будаваў на прыстані баржы. Урэшце то была ваенізаваная арганізацыя. Давалі ім па картачках мізэрную долю хлеба, круп, і яны, не разгінаючыся, абшывалі дошкамі тыя баржы. Удалечыні грымела вайна. Усюды панавалі рэзрух, нішчымніца. Трэба было рабіць і рабіць: вайна перамолвала жорнамі тысячы трохі старэйшых за Івана.

...Міне шмат часу, і лесніку Івану другі раз з раёна прышлюць паштоўку: прыйшла яго чарга набываць аўтамашыну «Жыгулі» нейкай апошняй мадэлі. І прыпомняцца яму прыстань, баржы, галодныя ваенныя гады, калі жадзён быў акрайцу чэрствага хлеба. Машына, вядома, Івану не трэба. Не трэба яна і Ульяне. Але ў іх, акрамя Міколы, яшчэ ў далёкім горадзе Курчатаве (Іван туды ездзіў, калі забіў вепрука) жыве дачка Таня з мужам. На атамнай працуюць. Дачка чакае другое дзіцё. Каму з іх купіць машыну? Задача!

Колькі гадоў назад, калі ім першы раз даслалі такую ж паштоўку, Ульяна, як адрэзала, сказала: «Машыну купім Тані». Але тая сама запярэчыла: «Ці ж я супраць, мама? Але падумайце, якімі вачыма пасля я буду глядзець на Колю? Вы ж не вечныя. А ў нас жа амаль нікога з родзічаў больш няма. З-за той машыны навечна ворагамі пастанем».

Што да Івана, дык ён не супроць быў, каб машыну меў і Коля. Але жонка ледзь не пад нос тыцнула яму дулю:

—А гэта бачыў? У мяне вунь ад зёлак ды ад зямлі патрэскаліся далоні, ад палоння гэтага. А ці ж паказала хоць раз сюды вочы нявестка? Сядзіць там, бы якая пані.

—У яе хапае сваіх клопатаў у музеі, — заступіўся за нявестку Іван.

— Ах, клопаты! Якія там клопаты? Дрэмлюць, бы сонныя мухі, пакуль хто адчыніць дзверы ў той музей...

Так і засталося тады адкрытым пытанне. Між тым, мясцовы шафёр Васіль Лысянок угаварваў Ульяну адаць яму чаргу на «Жыгулі». «Калі браць не будзеце, свайму сыну куплю, — сказаў ён. — Навошта ж чаргу губляць...»

Грошай, вядома, у Анісаўца хопіць — і, можа, не на адну толькі машыну. Кожны год ён прадаваў кабаноў, здаваў цялух. Ды і мёд часта вазіла і ў Гомель і ў Лоеў Ульяна. Ну, а калі ў ранейшыя гады надараліся грыбныя восені, не адну нізку адборных духмяных баравікоў па добрай цане прадавала жонка. Умее іх адмыслова сушыць на «баране» — усе, як на падбор, бялюткія, нанізаныя капялюшыкамі «па ранжыру».

Івану падабралася пад шэсцьдзесят. Раней думаў яшчэ папрацаваць год-другі, але жонка загадала:

— Хопіць! Якое там у цябе здароўе? Ледзь паднатужышся дзе, дык увесь мокры, як хлюшч той. А яны як прыедуць за лесам, дык самагонам-сінюгай частаваць спяшаюцца. Ад той самагонкі вочы на лоб лезуць, а ты такі цяльпук, што не можаш адмовіцца...

Што ж, Іван згодзен і на пенсію. Паслужыў лесу, шчыра кажучы, нямала. Кожная сцежка, кожны дубок чалавеку вядомы. Бывала, у летнюю спякоту, калі ўсё млее, калі жывіца на ствалах соснаў выступае, тупае Іван са стваламерам па лесе. А абход у яго вунь які вялікі — не адзін дзесятак квадратных кіламетраў. Звычайна Іван ідзе не спяшаючыся. То паглядзіць, ці не выкапаў хто корань расліны-касталома, ці не разбурылі дзікі лычамі мурашнікі, ці не час развесіць на ўзлессі дуплянкі-сінічнікі. А то пацікуе за лосем, што абкусвае асінавыя парасткі.

Аднойчы, калі марозік пачаў патроху шкліць лужыны, я запрасіў Івана і Валіка Кульгавага асвежаваць двух вепручкоў: трэба было збірацца ў Гомель.

— А «джала» ёсць? — запытаўся Іван. — У мяне ёсць са зламаных вілаў, ды трохі заржавела.

Ён прынёс і «джала» і спецыяльна зробленую затычку, каб дарма не пралівалася япрукова кроў. (Пасля з яе можна будзе напячы з грэчневай крупой крывянак). І рабіў усё не спяшаючыся, але дабротна. Спачатку смаліў паяльнай лямпай. А потым — кулямі саломы з таго жыта, што мы сеялі на гародзе. Ашчадна шкроб да жаўцізны прыпалены хіб нажом. І толькі смаліў адну за другой цыгарэты. (Яму Ульяна адразу, як прыязджала аўтакрама, набірала цэлую сумку пачак).

Яны з Валікам пасля свежавалі тушы на залацістай саломе, а я ўспамінаў, з якой цяжкасцю мы куплялі, а пасля гадавалі гэтых вепручкоў.

...Звычайна ў пачатку сакавіка, калі мы перабіраліся ў вёску (з сабой у выпісанай на заводзе «лятучцы» везлі крупы, камбікармы, якія ўдавалася за зіму дастаць у Гомелі), трэба было ісці купляць парасят. Нічога не паробіш: раз сабраўся ў вёску — выконвай Харчовую праграму. Ды і весялей жывецца, калі ў двары ёсць якая-ніякая жыўнасць.

Мы бралі два пустыя мяхі, апраналі старыя ватоўкі і ў суботу тэпалі спачатку ў Каўпень (восем кіламетраў), а адтуль аўтобусам — у Лоеў. Начавалі ў гасцініцы. А раненька — балазе базар пад бокам у гасцініцы — ішлі на гандлёвы пляц. Яшчэ ў прыцемках там ужо снoўдаліся такія ж бедалагі, як і мы. Цяпер не зявай— пільна сачы, каб не перахапілі. Вось пад'ехала адна, другая легкавыя аўтамашыны. З кузава грузавой вунь знялі аж тры скрынкі з парсючкамі... Мяшкі ў рукі — і да машын: раздумваць няма калі.

Як правіла (я заўсёды цікавіўся), парасят прывозілі з суседняга Брагінскага раёна. З вёсак Шкураты, Мікулічы, Астрагляды. Цану загіналі не ніжэй сямідзесяці за кабанчыка (свінкі ішлі танней; іх куплялі не надта ахвотна). Таргавацца доўга не выпадала: побач такія спрытнюгі (лоеўцы), што і перахопяць...

Грошы заплачаны. Парсючкі — у мяшках. Цяпер трэба на аўтастанцыі ўпрасіць шафёра, каб узяў з такім «грузам» у аўтобус. Дзякуй богу, не перавяліся яшчэ ў нас добрыя людзі, — бралі. Толькі пасля білета давалі квітанцыю на... штраф... А пасля восем кіламетраў трэба было цягнуць па бездаражы на спіне вісклівых «пасажыраў» да сябе ў хлеў. І тут нявольна думалася: няўжо нельга стварыць у раёне спецыялізаваную гаспадарку, якая б вырошчвала да адпаведнага ўзросту парасят, а пасля развозіла за адпаведную плату людзям у невялікіх вёсках? Адзіны раз саўгас «Лоеўскі» вывез на кірмаш прадаваць свой маладняк. За паўгадзіны размялі... А можна ж прадаваць і качанят, і куранят, і гусянят... Ды ці мала што можна прадаваць за сходную цану, каб пасля яно прыйшло для людзей лішнімі кілаграмамі свініны, цяляціны, сотнямі яек?

Іван Анісавец, калі смаліў, сказаў мне, што яго Ульяна аднойчы, каб купіць парсючка, дапяла аж да Холміча, што ў суседнім Рэчыцкім раёне. Загадзя даведалася, што на нейкі фэст там меўся быць кірмаш. Пабегла туды нанач (а будзе ад Багатай Грады туды кіламетраў за трыццаць). У знаёмых пераначавала, купіла двух парсючкоў. А Іван на кані пад'ехаў па яе. Забраў.

— Ну, а калі б яна не купіла? — запытаўся я.

Іван хмыкнуў і ўтаптаў у снег дакураную цыгарэту.

— Купіла б, — упэўнена адказаў ён.

Вядома, некаторыя выпісваюць за значна меншыя грошы парсючкоў у мясцовым калгасе. Але то бываюць, як правіла, слабыя, выбракаваныя парасяты. Ды не кожнаму і выпішуць: свінагадоўчай фермы ў гаспадарцы няма. У першую чаргу адпусцяць, скажам, Валянціну Іванавічу Кульгаваму ці якой Мар'і — былой даярцы. І праўленне па-свойму мае рацыю: трэба заахвочваць у першую чаргу спецыялістаў, тых, хто актыўна працуе ў гаспадарцы.

Раней Анісавец жыў на самым ускрайку вёскі. За яго сядзібай пачынаўся лес. Некалі знаёмы экскаватаршчык выкапаў каля лесу сажалку. Вакол яе гусціцца лаза, расце крушыннік, вольхі. Іван у сажалку запусціў маленькіх карасікаў і карпаў. Ульяне зрабіў з дошак сходнін, і жанчыне вельмі ж зручна было паласкаць бялізну каля густога чароту і рагазы, што разрасліся ў вадзе. А пасля надумалася Ульяна перабрацца ў бацькаву хату, што стаіць на сярэдзіне вёскі. (Іван Каваленка кажа: «Там ёй не было з кім сварыцца, а тут — куды ні кіне камяком гліны — у суседні агарод трапіць»). Тут — усё-такі цэнтр. Бацька памёр у Гомелі. Хату паклеілі шпалерамі, паслалі лінолеум. І аднойчы Іван з Ульянай, залыгаўшы як добрага бычка, вялі на новае селішча здаравеннага рахманага вепрука. Кабан трывожна рохкаў, прынюхваўся да незнаёмых пахаў, але спакойна тупаў за гаспадарамі. Я ведаў, што гэтага вепрука Ульяна мелася здаць на мясакамбінат. «На якую ж ашчадную кніжку пакладзе яна грошы? — думалася мне. — І каму ўсё ж купіць яна «Жыгулі»?

## Іван ды Мар'я

У галодныя пасляваенныя гады з далёкай вёскі над Дняпром прысталі ў Багатай Градзе ў прымы два Іваны. Града, лічы, цудам уцалела, хоць пасля таго, як нашы войскі расшырылі плацдарм ля Лоева, тут ішлі страшэнныя баі. Ястрабка, што кіламетраў за трынаццаць адсюль, сем разоў пераходзіла з рук у рукі. І цяпер не зараслі ў лесе бліндажы. Часам у гушчэчы дзікага малінніку, крушынніку, хмелю, што спорна разрастаюцца навокал, угадваюцца акопныя хады. Яны закіданы ламаччам, засыпаны шыгаллем, лістотай. У Градзе згарэла толькі нейкая пара хат. Тут у многіх дамах тады былі шпіталі. Урачы ратавалі сотні раненых, скалечаных асколкамі, мінамі. Колькі людскіх пакут пачулі ў тыя дні сцены гэтых дамоў!

Пасля прымакі «засваталі» яшчэ аднаго Івана — Каваленку. Ён прыстаў да чарнявай маладухі Мар'і. Яе бацькі даўно насілі мянушку «Пілёсцікі». Мусіць, таму, што Манін бацька ад роду быў шчупленькі, бы верабей, хадзіў подскакам, усё рабіў похапкам, заўсёды спяшаўся. Пройдуць гады, у Каваленкаў пойдуць свае дзеці, і Івана мясцовыя жыхары таксама празавуць Пілёсцікам. Дарэчы, даўно сцерлася з людской памяці, што і ён, і Валік Кульгавы некалі прысталі ў прымы да сваіх Мар'яў. Даўно яны сталі паўнапраўнымі гаспадарамі дамоў. А аб тым, што прыйшлі сюды з-пад Холмеча, ніхто не ўспамінае. Не ведаюць нават, што сям'ю Івана Каваленкі на яго радзіме і сёння клічуць «штундамі». Быццам нейкая іншая вера ў іх. Што да Івана, дык у яго адна вера — у сённяшні дзень. Аб тым, што будзе заўтра, ён асабліва ніколі не задумваецца. Не задумваецца і яго Мар'я.

Цяжка, бадай, знайсці яшчэ дваіх, якія б так дапаўнялі адзін другога. Жывуць яны бесклапотна, весела. Працяглы час Мар'я, як і муж, падахвоцілася была да шклянкі. Калі наступалі дні, як на гароды трэба было вывозіць гной і садзіць бульбу, — Іван і Мар'я як усё роўна другі раз нараджаліся на свет. У лесніка Каваленкі ёсць конь. Каму трэба ўзараць пад грады, каму—пасеяць ячмень, каму — вывезці гной. І тут, вядома, без бутэлькі было не абысціся. Звычайна Іван не адмаўляў. Толькі пераступаў крываватымі нагамі, заклапочана чухаў патыліцу:

— Хто пярэчыць, раз трэба? Ды конік стаміўся. Бач, вушы, бы лапухі, развесіў. Чорт яго ведае, ці пацягне плуг...

— Іванька, татка мой, — клянчыць якая-небудзь жанчына-ўдоўка. Мае ж меліся на суботу прыехаць з Гомеля — падсабіць... Я і ў Ульяны прасіла. У іх конь дужы. Удвух з тваім пацягнуць. У мяне там мякка: на зіму дыскавала...

Не столькі Іваны-леснікі, а іх жонкі даўно неўзлюбілі адна другую. Ульяна пры выпадку абгаворвае, што ў Мані ледзь не кожны год не хапае да вясны бульбы. І сапраўды, як толькі пачынае пакрыху параваць зямля, Каваленкі ўшчамляюць у калёсы каня, біруць мяхі і едуць да каго-небудзь у вёску, каб набраць бульбы. Звычайна ім даюць, бо Іван то дроў у лесе выпіша, то паабяцае ўзараць гарод, то шулы ў варотах падправіць: у руках спрыт мае.

Іван перамінаецца крываватымі нагамі, нешта мыліць бяззубым ротам.

— Заплачу, Іванка. А як жа, — не адступае якая-небудзь Мар'я.

— Дасць, чаго там, — нечакана ўступае ў размову Маня.

У яе густыя чорныя бровы. З-пад іх глядзяць касаватыя мангольскія вочы. Пры словах, што будзе пачостка, Маніны вочы загараюцца. Яна спасцярожліва зыркае на сыноў. Адзін — старэйшы — вучыўся на курсах на трактарыста. Меншы — Саша, — калі стаіць добрае надвор'е, ездзіць на веласіпедзе ў восьмы клас кіламетраў за дзесяць у вёску, дзе ёсць дзесяцігодка. Сыны непрыкметна пільнуюць бацькоў. Старэйшы папярэдзіў: калі Маня зноў нап'ецца, дасць ёй добрых кухталёў. Іван можа яшчэ папалохаць сына ляйчынай, а Маня пабойваецца старэйшага. Аднойчы той аперазаў яе, п'янаватую дручком па спіне...

Як бы там ні было, Каваленкі падахвочваюцца даць каня. Іван, валюхаючыся, ідзе на дрывотню і корпаецца там пад павеццю. А Мар'я любоўна глядзіць яму ўслед і паведамляе жанчыне, як вялікую таямніцу:

— У майго Івана лысіна пачынаецца з макаўкі галавы. Як усё роўна хто гарачую патэльню туды ставіў.

Старэйшы сын Каваленкаў загінуў у Афганістане. На могілках, пад разлатымі дубамі і тоўстымі соснамі, стаіць мармуровы помнік. З адшліфаванай да люстранога бляску стэлы глядзіць малады сімпатычны твар юнака ў пілотцы. Кажуць, з таго дня, калі салдаты прывезлі з Рэчыцы цынкавую труну з сынам, і пачала Маня прыкладвацца да рыльца бутэлькі. Можна было ўбачыць, калі вяскоўцы снoўдаліся бліжнімі бярэзнікамі за грыбамі, каля таго помніка Мар'ю. Жанчына апусцілася, заўсёдашняя яе жвавасць знікла, валасы ўскудлаціліся. На набрынялым твары амаль не было відаць шчылін яе мангольскіх вачэй. Мар'я поўзала па жоўтым пяску ля магілкі, перасыпала ў далонях жарсцвінкі, нешта шаптала. А то заходзілася ў галашэнні...

(Заканчэнне на стар. 13).

**Як паведамлялася ў друку, 29 ліпеня ў Доме палітасветы праходзіла сустрэча грамадскасці Мінска з метрабудаўнікамі пры ўдзеле кіраўніцтва ГалоўАПУ. Таму, што такая сустрэча была наладжана, паспрыяў зварот архітэктурнай секцыі Мінскага гарадскога савета Таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры з пісьмом у Мінскую транспартную пракуратуру ў сувязі з парушэннем метрабудаўнікамі Законаў СССР і БССР аб ахове і выкарыстанні помнікаў.**

**Мінчане атрымалі магчымасць пачуць ад спецыялістаў «Мінскметрабуда» адказы на хвалюючыя патрыётаў горада пытанні.**

**Не скажу, каб тыя адказы задаволілі прысутных, знялі напружанасць вакол праблемы захавання гістарычнага ядра горада.**

**Так, напрыклад, выконваючы абавязкі галоўнага інжынера інстытута «Метрапраект» П. Юркевіч гаварыў, што тэхналогія хімічнага замацавання грунту, падобная на тую, што скарыстоўваецца ў Мінску, найлепшым чынам зарэкамендавала сябе ў Нью-Йорку, а таксама ў еўрапейскіх гарадах, слаўных архітэктурнымі помнікамі — Парыжы, Бруселі. Маўляў, і метро неглыбокай закладкі дзейнічае, і старыя пабудовы ў еўрапейскіх сталіцах стаяць без шчылін у падмурках і сценах. Але ж на пытанне, ці здолее «Мінскметрабуд» гарантаваць такую ж якасць, як метрабудаўнікі Парыжа і Бруселя, і з каго потым будзе спытаць, калі нягледзячы на аптымістычныя запэўніванні, Верхні горад у рэшце рэшт разбурыцца — уцямнага адказу прысутныя не пачулі.**

**Да таго ж высветлілася, што метрабудаўнікі і Міністэрства культуры БССР, з якім «Мінскметрабуд» павінен узгадняць усе свае дзеянні на Замчышчы і ў Верхнім горадзе, не маюць агульнай мовы — разыходзяцца ў меркаваннях адносна таго, на што ў метрабудаўцаў ёсць дазвол, а на што няма. Высветліліся шматлікія пралікі на стадыі праектавання, у тэхналагічным забеспячэнні і ўрэшце — у выкананні работ па будаўніцтве другой чаргі метро. Вібрацыя ад метрацягнікоў пагражае нават абеліску на плошчы Перамогі — пра гэта гаворыць адзін з аўтараў помніка народны архітэктар СССР Г. Заборскі. Даводзіцца канстатаваць разыходжанне слоў і справы ў ГалоўАПУ і метрабудаўнікоў, крызіс даверу мінчан да чарговых абяцанак.**

**Таму вельмі натуральна прагучала на сустрэчы прапанова аб спыненні будаўніцтва другой чаргі метро і стварэнні ўсесаюзнай камісіі (бо Верхні горад — помнік усесаюзнага значэння з 1986 г., а Замчышча — з 1950 г.), у якую маглі б быць запрошаны і замежныя спецыялісты. Гэта камісія пасля адпаведных даследаванняў і вырашыла б далейшы лёс будаўніцтва. Прапанову горача падтрымалі ўсе ўдзельнікі сустрэчы, акрамя, зразумела, метрабудаўнікоў і кіраўніцтва ГалоўАПУ (бо метрабудаўнікі збіраюцца ашчаслівіць горад датэрміновым уводам другой чаргі ў эксплуатацыю).**

**І яшчэ некалькі слоў аб допісе «Фальшывыя аргументы», змешчаным у «Вячэрнім Мінску» 27 ліпеня з яўнай мэтай накіраваць грамадскую думку напярэдадні сустрэчы ў выгаднае для «Метрабуда» рэчышча. Допіс ішоў пад рубрыкай «Алё: «ЛіМ»!. Няцяжка зразумець пафас «рабочага «Мінскметрабуда» П. Кастрамы, у якога, дарэчы, ёсць цёзка, які падпісваецца «П. Кастрама (БЕЛТА)» — напрыклад, у «Вячэрнім Мінску» за 1 жніўня. «Метрабуд» не можа вітаць замаруджванне, а тым больш спыненне будаўніцтва — спыняцца прэміяльныя, а то і зарплата.**

**«Метрабудавец з БЕЛТА» ў самым пачатку свайго допіса папярэджвае: «Не буду ўдавацца ва ўсе дэталі названага артыкула» («Усё ў той жа пазіцыі?», «ЛіМ», 15 ліпеня) і сканцэнтроўвае сваю ўвагу не на тэксце артыкула, а на здымках А. Ільіна, якія яго дапаўняюць. На нашым здымку — трэшчыны на фасадзе будынка. Як жа «Вячэрні Мінск» аспрэчвае гэты фотафакт? Друкуе здымак, з якога відаць, што вокны першых паверхаў таго ж будынка закладзены цэглай, а падмурак умацаваны швелерам. Навошта мацаваць будынак, калі, як піша П. Кастрама, —«ніякай дэтанацыі»?**

**Другі кадр А. Ільіна — спілаваныя дрэвы. Зразумела, калі ўзнікае пагроза жылым будынкам і помнікам дойлідства, то гэта не самая страшная ахвяра, якую нясе горад. П. Кастрама лічыць, што дрэвы спілаваныя толькі там, дзе трэба. Але ці можа «Вячэрні Мінск» сцвярджаць, што на сумленні метрабудаўнікоў няма знішчаных без патрэбы дрэў на трасе другой чаргі метро?**

**Прыгадваючы трэці здымак лімаўскай падборкі, П. Кастрама прызнаўся, што «не зразумеў, што хацеў сказаць фотааматар», тым не менш узяўся яго каменціраваць.**

**Прапануем чытачам артыкул кандыдата тэхнічных навук В. Ярмоленкі. Спадзяемся, што гэта публікацыя паспрыяе высвятленню пытання пра аргументы — фальшывыя і сапраўдныя.**

**П. ВАСІЛЕЎСКІ.**
**кар. «ЛіМа».**

## ПРАЦЯГ РАЗМОВЫ

# МЕТРО І АБЛІЧЧА ГОРАДА

У КАНЦЫ 70-х гадоў, зыходзячы з той акалічнасці, што Верхні горад прыгавораны ГалоўАПУ да зносу (прыгадаем конкурсны праект забудовы Цэнтральнай плошчы, надрукаваны ў кнізе Л. Патапава «Сілуэт Мінска» — выдавецтва «Навука і тэхніка», 1980 г.), «Мінскметрапраект» пачаў работы па прывязцы, праектаванні і будаўніцтве другой лініі метрапалітэна ў запаведных мясцінах. Грамадскасць не ведала пра пагрозу, якая навісла над гістарычным цэнтрам горада.

Структурная аснова перспектыўнай схемы Мінскага метрапалітэна з трох ліній, якія перасякаюцца,— трохкутнік з бакамі паўтара-два кіламетры. Яго вяршыні (станцыі «Кастрычніцкая», «Плошча Леніна» і «Фрунзенская») — гэта перасадачныя вузлы. Ці магчыма была другая схема, якая не закранала б гістарычнай зоны беларускай сталіцы? Безумоўна. Але сёння, у выніку ведамаснай няўзгодненасці адных, недадумвання другіх і злой волі трэціх, размяшчэнне другой лініі метрапалітэна ў межах Верхняга горада (у плане і па вертыкалі) — пытанне ўжо вырашанае на практыцы. Нават у такім выпадку трасу можна было «пасадзіць» на 15—20 метраў ніжэй — пад першай лініяй, а не над ёй. На жаль, цяпер пра гэта гаварыць не даводзіцца — «цягнік пайшоў».

Газета «Вячэрні Мінск», здаецца, ужо пераканала мінчан у тым, што праходка Мінскага метрапалітэна ажыццяўляецца ў архіскладаных горнагеалагічных і гідрагеалагічных умовах. Ці так гэта? Калі не звяртаць увагу на сюрпрызы валуноў-гігантаў, то горнагеалагічныя і гідрагеалагічныя ўмовы Мінска можна лічыць спрыяльнымі ў параўнанні, напрыклад, з цвёрдымі гранітнымі пародамі Днепрапятроўска, рэзкім перападам рэльефу ў Ерэване або сапраўды складанай гідрагеалогіяй у Ленінградзе. Іншымі словамі, калі б перагонныя тунелі ў межах Верхняга горада былі «пасаджаны», скажам, на 15 метраў ніжэй, то і метрабудаўнікам было б прасцей, і для архітэктурных помнікаў больш бяспечна, а для эканомікі ў цэлым больш рацыянальна.

Пасля прыняцця Мінгарвыканкомам рашэння аб поўным аднаўленні і рэстаўрацыі Верхняга горада «Мінскметрабуд» і «Мінскметрапраект» у ліхаманкавай спешцы прымаюць дадатковыя меры для зніжэння негатыўнага ўздзеяння перагонных тунеляў паміж станцыямі «Янкі Купалы» і «Няміга» на гарадское асяроддзе: уладкаванне буранабіўных паляў, збудаванне маналітнага «саркафага» (жалезабетоннай пліты плошчай 2 тысячы квадратных метраў), ахоўных падпораў спосабам «сцяна ў грунце» і хімічнае замацаванне грунтаў — нагнятаннем у шчыліны пад ціскам на глыбіню да 15 метраў раствораў хлорыстага кальцыя і вадкага шкла (825 літраў на 1 пагонны метр шчыліны). У добрую капейчыну абыходзяцца дзяржаве ўсе гэтыя работы «Мінскметрабуда», але як даўно вядома—«сквапны плаціць даражэй».

Найбольш важным момантам у рэканструкцыі Верхняга горада, разлічанай на 1988—1993 гг., з'яўляецца аднаўленне гістарычнага ансамбля плошчы Свабоды. На практыцы гэта павінна выявіцца не толькі ў аднаўленні архітэктурнага сілуэта гістарычнага цэнтра беларускай сталіцы ў ранейшым выглядзе (царква Св. Духа, гарадская ратуша, вежа гарадскога гадзінніка, езуіцкі Кафедральны сабор і іншыя), але і ў прыстасаванні будынкаў да новых функцыянальных умоў. Вось тут і павінны метрабудаўнікі знайсці агульную мову са спецыялістамі «Белрэстаўрацыі». Гаворка ідзе аб згубным уздзеянні на стан будынкаў вібрацыі ад метрацягнікоў, бо ад трасы да падмурка дзеючага Кафедральнага сабора літаральна некалькі метраў. Таму «Мінскметрабуд» павінен, абавязаны зрабіць усё неабходнае, каб выключыць уплыў усіх адмоўных фактараў. Вырашэнне гэтай тэхнічнай задачы асабліва важна ў сувязі з запланаваным размяшчэннем у царкве Св. Духа аргана і дзіцячай філармоніі, ды і кансерваторыя «сядзіць» проста ля трасы.

**Ці ўсё прадугледжана цяпер для ліквідацыі вібрацыі і захаванасці помнікаў у Верхнім горадзе з пускам другой лініі Мінскага метро ў эксплуатацыю? Не? Бо сёння нават з жылога дома на праспекце Машэрава каля магазіна «Алеся» ўжо выселены жыхары (дом у аварыйным стане), патрэскаўся будынак тэатра імя Янкі Купалы... А гэта ж усё ў адносінах да Верхняга горада аб'екты перыферыйныя. Дарэчы, цяпер будтрэст № 17 «ратуе» сімвал горада — абеліск Перамогі на трасе першай лініі метрапалітэна ад... асядання (работы абыдуцца ў 500 тысяч рублёў). У сувязі з гэтым незразумелая пазіцыя «Мінскметрабуда», ГалоўАПУ і, разам з імі, газеты «Вячэрні Мінск», разлічаная на заспакаенне грамадскасці.**

**Напрыклад, у допісе «Фальшывыя аргументы» гаворыцца наступнае: «будуецца зараз Варшаўскі метрапалітэн, і варшавяне не пратэстуюць супраць сваёй «падземкі». Але ж вядома, што варшаўская «падземка» не кранае раёна гістарычнай забудовы. Да таго ж газета сама сабе супярэчыць — можна прыгадаць «круглы стол» («Аблічча Мінска: якім яму быць?», «Вячэрні Мінск», 14 мая 1988 г.), дзе ў прыватнасці прагучалі такія словы: «Да нас прыязджалі метрабудаўнікі з Варшавы. І мне было сорамна перад імі. Вось яны мне паказваюць на каналізацыю дваццатага стагоддзя і пытаюцца, што гэта такое? Што ідзе праз тэрыторыю Замчышча? Я ім тлумачыў гэта памылкамі пяцідзесятых гадоў. Яны пытаюцца, а чаму вы і зараз там нешта будуеце?»**

Для метрапалітэнаў неглыбокай закладкі праблема барацьбы з вібрацыяй і шумам — рэч амаль непазбежная. Звычайна яна вырашаецца за кошт спецыяльнай канструкцыі верхняй пабудовы пуці з павышанымі антывібрацыйнымі характарыстыкамі і шляхам удасканалення рухомага саставу. Пэўную цікавасць для метрабудаўнікоў Мінска можа ўявіць сучасны замежны вопыт. Так, на тунельных участках Мілана пачалі скарыстоўваць поліурэтанавыя шпалы з абшыўкай з мінеральнай ваты і на матах са шкловалакна; у Японіі паміж шпаламі і пуцявым бетонам укладваюць рыфленую пракладку з неапрэну. На метрапалітэне Цюрыха будуецца тунельны ўчастак, дзе рэйкі звараюцца ў плеці даўжынёй да 400 метраў(!), а пад поліурэтанавыя шпалы ўкладваюць пласт сінтэтычнага каўчука. На новых участках лонданскага метрапалітэна рэйкашпальная рашотка і баластная падушка ўкладваюцца на маставое палатно з папярэдне напружанага жалезабетону, а паміж палатном і апорнымі блокамі кладзецца суцэльны пласт віскознага матэрыялу. На 500-метровым доследным участку Парыжскага метро ўкараняецца найноўшая вібраахоўная канструкцыя, дзе з дапамогай трайнога дэмпфіравання дасягаецца вібраахоўны эфект да 25-ці дыцбел; на станцыях аснова пуці пакрываецца 3-ма пластамі прафіляванага вібрапаглынальнага матэрыялу з этылену, прапілену і тэрмапалімеру. Такі матэрыял спецыялісты лічаць адным з найбольш эфектыўных. Праўда, яго кошт высокі, што вядзе да падаражання будаўніцтва ў паўтара разы.

**Агульны ўзровень вібрацыі вызначаецца таксама і неабрэсоранай масай метравагонаў. З улікам гэтага фактару метрапалітэн Лондана заказаў шведскай і англійскай фірмам 75 чатырохвагонных цягнікоў. Кузавы вагонаў на пнеўматычных шынах будуць выраблены з высокатрывалых прэсаваных алюмініевых профіляў і панеляў узамен стальных з выкананнем знешніх дзвярэй, якія не патрабуюць кішэняў у сцяне вагона. «Бясшумныя» колы з унутранымі гумавымі праслойкамі будуць аснашчаны амартызатарамі і стабілізатарамі папярочных перамяшчэнняў, а ў цягніках будзе прыменена сістэма тырысторнага кіравання электрарухавікамі, якая забяспечвае плаўнае паскарэнне і тармажэнне. Аналагічныя айчынныя вагоны серыі «І» выпрабоўваюцца цяпер аб'яднаннем «Метравагонмаш» Мінцяжмаша СССР — маса вагона зніжана на 3,5 тоны.**

Такім чынам, праблема вібрацыі і, значыць, здавальняючага захавання помнікаў на ўчастку Верхняга горада можа быць практычна цалкам вырашана, калі ўжо цяпер, сёння прадугледзець вібраахоўныя мерапрыемствы з выкарыстаннем замежнага і айчыннага вопыту. На адрэзку другой лініі «Купалаўская — Няміга» гэта прывядзе да значнага павелічэння кошту будаўнічых работ, але гэта ўжо даплата (ці расплата) за няўзгодненыя дзеянні мінскіх архітэктараў і метрабудаўнікоў дзесяцігадовай даўнасці. У сувязі з гэтым хацеў бы звярнуць увагу грамадскасці на той факт, што на перагоне «Купалаўская — Няміга», як і на ўсёй трасе, «Мінскметрапраект» 21 красавіка гэтага года зацвердзіў да вытворчасці работ праект верхняга збудавання шляху БІМ-105. У ім тыя ж звычайныя стыкі на рэйках Р50 стандартнай даўжыні з металічнымі накладкамі ў пуцявым бетоне і падкладкамі СК-50, якія ўжываюцца на трасах метрапалітэнаў глыбокага закладання. Праўда, літаральна днямі «Мінскметрапраект» на гэтым участку трасы замяніў металічныя пракладкі на гумавыя, але для вырашэння праблемы вібрацыі гэта як «мёртваму прыпарка». Будаўнічыя работы па такім «праекце» трэба, на маю думку, без прамаруджвання спыніць. Трэба таксама звярнуць увагу на магчымасць пуску другой лініі Мінскага метрапалітэна толькі пры ўмове выкарыстання новых айчынных вагонаў серыі «І». Падобна, аднак, што «Мінскметрабуд» чакаць такіх вагонаў і ўкладваць рэйкі па парыжскім варыянце не збіраецца. Больш таго, ужо ўзяты павышаныя абавязацельствы — здаць другую лінію метрапалітэна да майскіх святаў 1990 года?! Тут міжволі прыгадваецца загад аб вызваленні Кіева любой цаной і любымі сродкамі да свята 7 лістапада 1944 года ці датэрміновая здача ў эксплуатацыю Чарнобыльскай АЭС. Калі гаворка ідзе пра захаванне Верхняга горада, трэба і час патраціць і грошай не шкадаваць.

**Цяпер на станцыі «Няміга» пачаліся абліцовачныя работы. А ці патрэбна гэтая станцыя тут, на тэрыторыі археалагічнага запаведніка? Паблізу ж няма вялікіх прамысловых прадпрыемстваў, і велізарныя ці колькі-небудзь вялікія пасажырапатокі не з'явяцца тут ні ў канцы XX стагоддзя, ні ў пачатку XXI. Строга кажучы, сёння патрэбна сур'ёзная экспертыза ўсяго праекта другой лініі метро ў межах гістарычнага ядра старажытнага Мінска, а тэрмін здачы гэтай лініі ў эксплуатацыю павінен быць перагледжаны з улікам вынікаў гэтай экспертызы.**

Відавочна, што праектныя і будаўнічыя работы ў Верхнім горадзе не павінны весціся без узгаднення з аб'яднаннем «Белрэстаўрацыя». Варта прыцягнуць да рэстаўрацыйных работ у беларускай сталіцы польскіх спецыялістаў прадпрыемства ПКЗ («Майстэрні па рэстаўрацыі помнікаў даўніны») на аснове кантракту Знешнегандлёвага бюро ПКЗ з «Саюззнешнебудімпартам». ПКЗ цудоўна справілася з задачай аднаўлення «Старога Мяста» з Каралеўскім замкам у Варшаве і цяпер паспяхова працуе на мностве аб'ектаў у СССР. Для запрашэння польскіх спецыялістаў ёсць усе падставы — Верхні горад з'яўляецца помнікам саюзнага значэння і ўваходзіць у лік выдатнейшых твораў беларускага народа. Нездарма паэт Уладзіслаў Сыракомля называў Верхні рынак Мінска архітэктурным цудам, якому маглі пазайздросціць і Варшава, і Вільня.

Сёння, калі праблемы аховы помнікаў уступаюць у супярэчнасць з задачамі горадабудаўнічымі, у ахвяру прыносяцца помнікі. Так было і з Нямігай, а транспартную ж праблему ў гэтым месцы горада можна было вырашаць за кошт дэмантажу і зносу Дома мод (магчыма, былі і іншыя тэхнічныя рашэнні). Цяпер настаў час, калі ўсе будаўнічыя работы ў межах даваеннага Мінска недапушчальныя без візы Міністэрства культуры, а праекты рэстаўрацыі — без зацвярджэння вучонымі саветамі адпаведных інстытутаў АН БССР.

**На жаль, сёння грамадская занепакоенасць аб стане і лёсе помнікаў культуры не адлюстравана ў крымінальным заканадаўстве. Акрамя таго, моцная інерцыя мыслення выключна эканамічнымі катэгорыямі. І атрымліваецца такая бухгалтэрыя, што ўсе нерухомыя помнікі гісторыі і культуры ацэньваюцца па той жа методыцы, што і звычайныя, чыста функцыянальныя сучасныя збудаванні — па балансавым кошце. Але і гэтага мала — чым больш старажытны помнік, тым лічыцца большая яго зношанасць і, значыць, меншы яго балансавы кошт. Напрыклад, Сафійскі сабор у Кіеве «каштуе» стольні ж, колькі тыповы дзіцячы садок. Ці варта здзіўляцца таму, што наша Мінскае замчышча цаны нібыта не мела, а таму і было вывезена на гарадскі сметнік як будаўнічы друз. Мяркую, што патрэбен прынцыпова іншы падыход да ацэнкі такіх дзеянняў — патрэбна паўсюдная экспертная ацэнка ўсіх помнікаў даўніны пры адначасовым удасканаленні крымінальнага заканадаўства.**

У нашым горадзе не так ужо шмат засталося унікальных архітэктурных помнікаў. Вось чаму такая пільная ўвага гараджан прыкавана цяпер да Верхняга горада. Тут, ля зліцця Свіслачы і Нямігі, пачыналася тысячагадовая гісторыя Мінска. Шэраг будынкаў Верхняга горада, хоць і не належаць да зарэгістраваных помнікаў архітэктуры, але з'яўляюцца самой гісторыяй. Правільна сказаў з гэтай нагоды акадэмік Д. С. Ліхачоў — радавая забудова вызначае аблічча горада. Нельга дапусціць, каб гэтае аблічча ў Мінска было змазана.

Якімі мне ўяўляюцца Верхні горад у 1993 годзе (па плане рэстаўрацыі), а потым і Ніжні горад? Гэта аднаўленая Няміга і вызваленая ад знявольвання аднайменная рака, узноўленыя Замкавая гара і частка крапаснай сцяны старажытнага Менска з драўлянымі варотамі, сучасны помнік заснавальніку горада легендарнаму Менеску, перададзены гораду ведамствам МУС і адрэстаўраваны цудоўны Пішчалаўскі замак на вул. Валадарскага, зноў адбудаваны будынкі першага беларускага тэатра і гасцініцы «Еўропа» на плошчы Свабоды, дэмантаж і перанос будынкаў інстытута «Мінскпрампраект» на вул. Леніна і «Дома Мусінскага» на Нямізе... і, вядома ж, адноўлены ў першапачатковым выглядзе Верхні горад — нацыянальны гонар беларусаў. Вырашэнне гэтых пытанняў не ў малой ступені залежыць ад грамадскага кардынацыйнага савета, які ўзначальвае цяпер галоўны архітэктар г. Мінска Я. Кавалеўскі.

Гісторыя горада — гэта наша Памяць пра мінулае. Сумленне патрабуе захаваць яе для будучых пакаленняў.

**В. ЯРМОЛЕНКА,**
**горны інжынер-маркшэйдэр, кандыдат тэхнічных навук.**

 

## Не трэба ідэалізаваць сябе...

Прадстаўнікі таварыства маладых літаратараў пры СП БССР «Тутэйшыя» атрымалі магчымасць абвясціць сваю, скажам так, праграму, выказаць адкрыта свае думкі («Маладосць», № 4, 1988). Сярэдні ўзрост тых, хто адказваў на пытанні анкеты часопіса, усяго 28 год, і таму можна зразумець *запал* і нецярплівасць маладых літаратараў. Многа сказана імі рэзкіх і справядлівых слоў у адрас СП БССР. У той жа час у некаторых выказваннях заўважаецца, мякка кажучы, нетактоўнасць.

Правільна гаворыць старшыня таварыства Алесь Бяляцкі: «Узнікненне таварыства... — натуральная і заканамерная з'ява». Больш таго, трэба вітаць сам факт стварэння падобнага *аб'яднання, бо гэта* (думаю, большасць чытачоў мяне падтрымае) садзейнічала актывізацыі літаратурнага жыцця. «Тутэйшыя», відаць, мараць аб той творчай атмасферы у літаратуры, якая існавала ў 20-я гады. І толькі адсутнасць матэрыяльнай базы вымушае таварыства шукаць прытулак у СП. Існаванне некалькіх літаратурных аб'яднанняў ва ўпамянуты мною перыяд, канечне, побач са станоўчымі бакамі мела і свае хібы, але гэта ўсё-такі больш карысна, чым поўная цэнтралізацыя.

Бясспрэчна, тая справа, якую робяць «Тутэйшыя», заслугоўвае павагі. Але не трэба ім ідэалізаваць сябе.

**М. ШУКАНАЎ.**

г. Жлобін.

# ПЕРШАСНАСЦЬ ЗА ТАЛЕНТАМ І ДУШОЙ

Калі сказаць праўду, то я не вельмі ўважліва сачыў за дыскусіяй — ці спробай дыскусіі — вакол артыкула Леаніда Дранько-Майсюка «Як» і «навошта?» І вось новая публікацыя, у якой паэт выказвае засмучэнне, што не пачуў галасоў літаратурных аднагодкаў. Думаецца, сваіх аднагодкаў, сваё пакаленне ён імкнецца разварушыць не для падтрымкі «канцэпцыі першаснасці формы», а ўвогуле хоча пачуць іх голас аб паэзіі, аб стане літаратуры і мовы беларускай. Гэта і падкупляе.

Менавіта другі артыкул паказвае, што Дранько-Майсюк не ўзводзіць у абсалют свае высновы аб творчасці, што ён, сцвярджаючы, сумняваецца. Яму патрэбны розныя меркаванні. Што ж, толькі так і нараджаецца ісціна. Ды ў літаратурнай творчасці да ісціны...

Шмат зараз паэтаў і празаікаў, ды бяда: мала іх чытаюць. А справа ў тым, што форма твораў не тая. Дайце «філігранную форму» — і ўсё стане на месца. Няхай мяне прабачыць Леанід за парадыйнасць, але ўсё гэта так спрэчна.

На мой погляд, толькі адно не можа аспрэчвацца: талент. Ён павінен развівацца і не ісці на кампраміс з сумленнем. Усё *іншае — маніпуляцыі з формай*, са зместам, спалучэнне наватарства і традыцыі — толькі элементы ззяння «самародка».

У адным з гумарыстычных вершаў Максім Танк бліскуча выказаў думку, што ўсе вакол яго ведаюць, як ствараюцца вершы і толькі яму гэта невядома. *Мусіць, так яно і ёсць*, асабліва ў паэзіі. Колькі паэтычных фармуліровак створана, а дасканалага адказу на пытанне, **што такое паэзія**, няма. І не можа быць, бо яна тое ж самае, што і каханне, што і душа. Паняцці *такія не растлумачыш* і не асэнсуеш — гэта таямніцы вякоў... Вядома ж, нельга ў такім разе не імкнуцца да разгадкі, да роздуму над гэтымі з'явамі, якія ад дотыку гарачых сэрцаў толькі ярчэй і прывабней засвецяцца.

Звярнуўся да кахання і душы невыпадкова. Ці не здаецца вам, што гэтыя таямніцы пачынаюць пыліцца на паліцах разам з кніжкамі. А разам з імі і любоў — да радзімы, да гісторыі, да культуры і мовы бацькоў, да зямлі нашай... Здаецца мне, духоўны пачатак пачаў задыхацца, паміраць — *прыдушылі яго непрыкметна* ў спешцы да высокіх вяршынь. Душы нашы патрабуюць ачышчэння, адраджэння, святла, якое б асвяціла змрок. Зразумелі гэта быццам бы ў апошні час, толькі б шчыра...

Не, пра нешта больш глыбокае, чым «суадносіны сацыяльнага і эстэтычнага ў літаратуры» павінны гаварыць літаратары. І пісаць шчыра, бясстрашна. І ў спрэчках быць чалавечнымі, не вяршыць адзін над другім суд, не вешаць ярлыкоў.

Мне асабіста не падабаецца канфрантацыя паміж прэтэндэнтамі на першыя ролі ў літаратуры з кагорты «Тутэйшых» і некаторымі старэйшымі літаратарамі. Першым няздэнны ўрок у вершаваным выглядзе падала Святлана Басуматрава ў «ЛіМе» ад 8 красавіка. *Аднак я разумею таго ж Анатоля Сыса, Адама Глобуса* і іншых пачаткоўцаў. Ведаю з асабістага вопыту і з вопыту паплечнікаў, як адносіліся і пакуль адносяцца да вершаў маладых у розных рэдакцыях, як іх нялёгка надрукаваць, калі ты яшчэ не ўмееш пазмагацца, паспрачацца.

Так, у маладых многа недасканаласці, хібаў, часам веданне роднай мовы не хапае (*бяда народная!*), але ж дайце паверыць у свае магчымасці, не адмахвайцеся з высокіх і не вельмі высокіх п'едэсталаў. І не выхоўвайце з маладых нешта аморфнае.

Успамінаю, як гадоў дзесяць-пятнаццаць назад адзін з літкансультантаў (зараз ён на пенсіі) даводзіў мне: «Не пішыце вы ў вершах «Хрыстова», замяніце чым другім, а то, ведаеце, павявае нечым рэлігійным». А калі гэта рэальная вёска, вёска маленства? Дый назва цікавая. Павінен быў адчуць гэта чалавек, тым больш паэт. Баяўся, мусіць, нечага. Калі ж лічыў, што *верша* няма, то трэба ў такіх выпадках не хадзіць вакол ды каля, а гаварыць праўду ў вочы. А то пачыналася «хірургічнае ўмяшанне» ў радкі, якія ты выношваў тыднямі, месяцамі. У другіх рэдакцыях знаходзіліся другія «хірургі» з больш вострым скальпелем. Аналагічнае «шліфаванне» сустракаецца і сёння.

Ведаю, што многія маладыя сустракаліся з падобнымі адносінамі да іх твораў, многія «перабудаваліся» пад агульную шэрасць, страчваючы індывідуальнасць.

У першую чаргу трэба выяваць з бездарамі і кар'ерыстамі. Яны ж ёсць не толькі сярод старэйшых. І сярод маладых паэтаў ёсць спрытныя прэтэндэнты на «прызавыя месцы». Толькі сапраўдныя літаратары не думаюць аб першым, другім ці трэцім месцы. Душа ў іх баліць за іншае.

**Янусь МАЛЕЦ.**

г. Мінск.

# КАБ ПАЧУЛІ...

**З. Марозаў. Хлеб і памяць. Вершы. Мінск, «Мастацкая літаратура», 1988.**

У першым зборніку Змітрака Марозава «Пад небам буслíным», які выйшаў у 1982 годзе, было нямала сімпатычных радкоў. Прывяду хаця б такія:

**На мёрзлы дол сягоння зранку**  
**Снег тонкім слоем лёг,**  
**Гнязда буслінага вушанку**  
**Надзеў азяблы клён.**

Але — пяшчотныя і крышку гарэзлівыя — яны згубіліся, бездапаможна патанулі ў віры слабенькіх вясковых замалёвак, штампаў, плакатных рыфмовак накшталт: «Гартаваная ў віхурах Ідзе за Партыяй у паход Беларуская літаратура, Неўмірučая, як народ». Зрэшты, былі там яшчэ цікавыя вобразы, неблагія вершы (тая самая «божая іскра»), якія давалі надзею, што ў будучым пры настойлівай і нялёгкай працы іх аўтар здолее стаць добрым паэтам.

І вось на паліцах кнігарняў з'явілася новая, другая па ліку кніжка Змітрака Марозава «Хлеб і памяць». Аўтар застаўся верным сваёй тэме, імкнучыся, кажучы словамі з анатацыі, «асэнсаваць гераічнае мінулае і сённяшні светлы дзень сваёй малой радзімы — «вясковай планеты», яе працавітых і шчырых людзей — хлебаробаў, сваё месца ў складаным і супярэчлівым жыцці».

Маладому паэту, былому аграному, а зараз работніку аграпрамысловага комплексу рэспублікі, ёсць што сказаць пра вёску, сказаць з непадробным пачуццём і з веданнем тэмы. З. Марозаў звяртаецца да канкрэтных людзей. Гэта ветэраны вайны, хлебаробы, гэта вясковая настаўніца, старшыня калгаса, аграном. Пра іх няпростыя лёсы, пра іх радасць і смутак, шчасце і гора і распавядае малады паэт.

**Зноў яго я сустракаю,**  
**Адзінокі і слабы,**  
**Ён па вуліцы блукае**  
**Ценем смутку і журбы.**  
**Ношку лёсу цяжка несці,**  
**А тым болей — аднаму.**  
**Кажуць, ёсць у Ціта дзеці,**  
**Ды не шлюць лістоў яму.**

Неаднаразова аўтар звяртаецца да вобразаў маці, дзяцей, прыроды. Яго боль за сваю «вясковую планету», як і любоў да яе, гучыць шчыра і пранікнёна:

**«Прагрэс! Прагрэс!» — ракоча экскаватар.**  
**Ну што ж ты, бог балотны, нарабіў?**  
**Той ручаёк — жыцця майго экватар,**  
**А ты яго вось так... Пераступіў!**

Праўда, шчырасць і пранікнёнасць пачуцця яшчэ не зарука таго, што твор атрымаецца ўдалым. Запамінальна, па-свойму перадаць пачуцці не заўсёды ўдаецца З. Марозаву.

**Пад знакам радыяцыі**  
**Не кане ў бездань век...**  
**Парве ланцуг рэакцыі**  
**Разумны чалавек!**  
**І зноў пасее вечнае**  
**Зямное адкрыццё,**  
**Рэактары сардэчныя**  
**Працуюць на жыццё!**

Усё на месцы: рытм, рыфма, парадак слоў, але верш наўрад ці здолее выканаць сваю самую элементарную функцыю — суперажывальную, бо думкі ўкладзены ў яго банальныя.

На жаль, гэтая залішняя правільнасць, прастата, якая мяжуе з прымітыўнасцю, — даволі частая з'ява ў зборніку «Хлеб і памяць». Я маю на ўвазе вершы «О як нялёгка брацца на сэрца...», «Няма ў прыродзе аднадушша», «Суседзі», «Пазнаюцца людзі ў бядзе...», «Памяці Героя Савецкага Саюза Міколы Чэпіка», «Наўкол такая мітусня...», «Танцы», «У цёмным чэраве зямлянкі...», «Хаты, вулка, гонкая сасонка...» Стаўлю шматкроп'е, бо пералік можна доўжыць.

Можна папракнуць аўтара і ў няўменні падняцца над простай канстатацыяй фактаў. Калі паэт піша: «Праходзіць ноч. Зноў сонца свеціць. Святла без цемры не ўявіць. І толькі мы, прыроды дзеці, Іх вечна хочам пасварыць», то не зусім зразумела, *што ён мае на ўвазе* пад гэтай сваркаю. Сапраўды, святло нельга ўявіць, не ведаючы, што такое цемра, але ж нельга і ўявіць сабе іх разам. Чытаем яшчэ: «Жыццё, — калі твой дзень да донца Запоўнен клопатам адным: Наблізіць як людзей да сонца, Як зберагчы іх ад вайны». Гучыць вельмі ўжо высакапарна. Да таго ж «наблізіць як людзей да сонца» можа ўспрымацца двухсэнсоўна.

Не заўсёды ўдала выкарыстоўвае аўтар тыя ці іншыя мастацкія сродкі, наогул, ён бывае няўважлівы да слова. «Воблакі, вандроўнікі блакіту. Дзякуй вам за лівні і снягі. Што майму спагадліваму жыту Дабрыні адкрылі берагі». Што гэта за берагі дабрыні, ды яшчэ ў жыта — незразумела.

У вершы «Жураўліныя плёсы» Змітрок Марозаў піша: «няма супакою Мне ні ночу, ні ў будзень...» Дзіўнае супрацьпастаўленне: «ноч — будзень». Альбо: «Пад акном — смех шчаслівы І на сэрцы цяплынь...»

Чамусьці птушкі ў вершах маладога паэта альбо аб нечым просяць, альбо кагосьці клічуць: «Хай цябе гукае бусел. Звон вясёлых ручаёў...» (с. 41). «Над ракою кнігаўка кігіча. Мо згубіла дзетак і гняздо?.. Можа, паімённа вояў кліча, Што навек зрадніліся з вадой?» (с. 50). Зрэшты, клічуць не толькі птушкі. У вершы пра яліну-партызанку чытаем: «Яна ж рыпіць, нібыта кліча З былога паўшых партызан» (с. 56).

Як бачым, папрокаў, прэтэнзій да аўтара можна выказаць шмат. Ці ўдасца ад іх пазбавіцца З. Марозаву і як хутка — пакажа час. Пакуль можна параўнаць яго першыя дзве кніжкі і адзначыць, што ў другой заўважаецца не столькі рост аўтара як паэта (пішу «не столькі», бо пэўны рост усё ж ёсць, хоць і не дужа прыкметны), колькі, відаць, набыццё ім большага жыццёвага вопыту, пашырэнне кругагляду.

Ёсць у маладога паэта вершы, на якія яму варта раўняцца: «Сенакоснае», «Памёр настаўнік мой любімы...», «Дыялог на бягу», «Магнітныя буры на сонцы...», «Халадок таполяў белых...», «Шукаю ў людзях падабенства...», «Як многа навокал прасторы...» Ці вось гэты:

**Цісне час на сэрца гулкім прэсам,**  
**Выбівае з рытму мітусня.**  
**Адстае свядомасць ад прагрэсу.**  
**І разрыў той большае штодня.**  
**Асядлалі робаты арбіты,**  
**Нам дыктуюць этыку жыцця,**  
**А спагада, стаўшы дэфіцытам,**  
**У куточку плача, як дзіця.**

Вельмі хочацца спадзявацца, што з часам голас паэта стане больш выразным і адметным.

**Алесь БАДАК.**

## КНІГАПІС




С. ДЗЯРГАЙ. Чатыры стыхіі. Вершы і паэмы. Мінск, «Мастацкая літаратура», 1988.

**Дзякуючы ўкладальніку зборніка і аўтару прадмовы «Кожны рух свой жыццю прысвячаю» Яўгену Міклашэўскаму чытач мае магчымасць пазнаёміцца з творчасцю аднаго з самых цікавых беларускіх паэтаў.**

**Змешчаны лепшыя творы, С. Дзергая, у тым ліку тыя, якія ў свой час увайшлі ў яго прыжыццёвы зборнік «Чатыры стыхіі», адзначаны літаратурнай прэміяй імя Янкі Купалы.**




В. КАРАМАЗАЎ. Дзяльба кабанчыка. Выбраныя творы. Мінск, «Мастацкая літаратура», 1988.

**Раман «Пушча», аповесці «Дзень Барыса і Глеба», «Пагоннік», апавяданне «Дзяльба кабанчыка», якія склалі гэтую кнігу Віктара Карамазава, узнімаюць надзённыя праблемы сучаснасці, у іх гучыць голас чалавека, які ўважліва ставіцца да ўсяго, што адбываецца ўсвеце.**

**Цёплае слова пра сябра паспеў сказаць у прадмове «Вясёлка і стрэчны вецер» Міхась Стральцоў.**




Э. СКОБЕЛЕЎ. Мой дом. Вершы. На рускай мове. Мінск. «Мастацкая літаратура». 1988.

**Лейтматывам новай кнігі Эдуарда Скобелева «Мой дом» гучаць радкі: «Верно понятый век — честно понятый долг. В этом силы людской бесконечный исток. В исполнении долга все счастье земное: он хранил справедливость, он правды залог...». Аўтар імкнецца зразумець, што ёсць чалавек як асоба, індывідуальнасць у нашым трывожным, супярэчлівым дваццатым стагоддзі. Два раздзелы зборніка — «Святліца» і «Зара ў вокнах» — арганічна звязаны між сабой, яны паглыбляюць гаворку аб часе і месцы чалавека ў ім, надаючы ёй усё новыя аспекты.**

**Звяртаецца Э. Скобелеў і да мінулага, гісторыі, даючы сваё асэнсаванне вядомым падзеям. У прыватнасці, у кнігу ўвайшла невялічкая драматычная паэма «Праметэй», у падзагалоўку якой сказана: «Новае прачытанне старадаўняга міфа».**



 

**ПРОЗА**

# ФАВАРЫТ КАРЛ





*АПАВЯДАННЕ*

Нахіліўшыся над загараддзю, Сцяпан Мінавіч прутком паказытаў свіней, якія ляніва, быццам начальнікі, валюхаліся перад ім у гразі. Свінні ўсе гладкія, з ружовенькімі лычамі, адно ў адно, што блізняты.

Сцяпан Мінавіч стаяў і думаў, што вось і споўнілася тры гады ягонага новага жыцця. Хоць якое яно новае, калі тры гады? Здавалася, тут ужо векаваў. За тры гады ён амаль усё ўспомніў з інстытуцкай навукі і па заатэхніі, і па ветэрынарыі. Успомніш... Лепш свіннямі загадваць, чым лес пілаваць, альбо мокнуць у снег і дождж на будоўлі. Лепш... Дзякуй тым, хто дапамог яму, знайшоў гэтае месцейка загадчыка турэмнай свінафермы. Лепш быць з свіннямі, чым з людзьмі...

Прычухаў да плота парсючок Карл. Рохкае, трэцца бокам аб нагу Сцяпана Мінавіча. Потым абслюніў лычом увесь чаравік, узняў свае маленькія свіныя вочкі і глядзіць, не міргаючы. Ёсць, мусіць, і ў яго галаве нейкая думка. Сцяпан Мінавіч прыгінаецца і гладзіць, гладзіць па спіне парсючка, а самому раптам хочацца плакаць. Па шчацэ спаўзае сляза. Рукавом выцірае яе і бачыць, што і ў парсючковым воку бліскучая кропля... «Ах ты дурненькі»,—шэпча ён, чухрыць парсючка па гладкім дагледжаным карку і забывае, што гэта жывёла, а не чалавек. Усё, што вакол яго, знікае, нібыта ён не ў турме. І на душы адразу лягчэе. Застаецца толькі ён, гэты парсючок Карл, і статак свіней, якія рохкаюць ціха, бесклапотна.

Калі б гадоў дзесяць назад хто сказаў, што яму для шчасця будзе дастаткова пасядзець аднаму каля свіней і пачухрыць ім спіны, ён бы таго вылаяў і ніколі больш не размаўляў з ім. Але гэта ў мінулым жыцці...

Карл прыціх, лёг каля слупа, мяккім бокам прыціснуўшы нагу загадчыка фермы. Мусіць, бедалагу таксама не хапае ласкі. Не ведае, не разумее лапавухі, што ўвосень прыйдзе прапаршчык Зухвец, загадае падрыхтаваць яго да свята.

Будзе вельмі шкада Карла. Толькі што зробіш, калі такі парсюковы лёс —ісці на спажыву людзям. Раней, яшчэ ў тым жыцці, Сцяпан Мінавіч ніколі пра гэта не думаў. Палічыў бы проста глупствам. А цяпер гэта глупства мо для яго найважнейшае. Усё змянілася, перавярнулася, стала, як кажуць, з ног на галаву.

Учора ў канцылярыі, куды выклікаў яго прапаршчык Зухвец, Сцяпан Мінавіч крадком зірнуў на сябе ў люстэрка, што вісела на сцяне каля дзвярэй. Жахнуўся: твар у зморшчынах, валасы ссівелі, нелюдзімы позірк. Словам, дайшоў, даехаў...

Не ўзнімаючы галавы, ён раптам убачыў, не, проста адчуў, што недалёка ад яго прыпыніўся чалавек. Навошта ён тут? Адразу ахапіў страх: хто гэта? Нехта з аховы, альбо гэтакі ж зэк, як і ён? Яму нікога не трэба зараз, досыць кампаніі Карла! І ўсё-ткі краем вока Сцяпан Мінавіч спрабуе разгледзець таго, хто парушыў яго спакой. На другім баку загарадзі, гэтак жа апіраючыся грудзьмі на жэрдку, стаіць Карнук. Ён у турме з таго тыдня. Яны ўжо бачыліся, пагаманілі трохі. Хоць і ў чорнай ватоўцы Карнук, простых картовых штанах і галава паголеная, аднак яшчэ адчуваецца былая пастава. Здаецца, вось-вось пачуеш вымову альбо папярэджанне. І ў прысутнасці Карнука ў Сцяпана Мінавіча нешта сціскаецца ўнутры, хочацца бадзёра павітацца з ім. Усёй істотай пратэстуе Сцяпан Мінавіч супраць свайго трымцення перад былым сакратаром райкома, але нічога не можа з сабой зрабіць. Міжволі на вуснах злепліваецца прыязная ўсмешка.

За тыдзень Сцяпан Мінавіч прывык ужо да думкі, што Карнук таксама тут, у турме. Значыць, нешта-такі адбываецца ў краіне, калі і ён за кратамі. І ўжо тое, што стаіць побач, не бянтэжыць і не здзіўляе. Відаць, прыслалі ў памочнікі да яго. Сцяпан Мінавіч палахліва думае: а калі ён, Карнук, ужо загадчык свінафермы? Ягоныя ж сувязі мацнейшыя...

Сцяпан Мінавіч хітае галавой, Карнук гэтак жа адказвае. На яго твары таксама ўсмешка. Пастава ў ім засталася, але ўсмешка сумная і нават, здаецца, баязлівая. Яшчэ ўчора Сцяпан Мінавіч яму спачуваў, а сёння—наўрад. У душы варушыцца ціхая радасць: і на яго знайшлася сіла. Думаў да смерці выседзець каля карыта. «Бач, адабралі крэсла! Карытнік...—думае Сцяпан Мінавіч.—Я павінен быць удзячным яму: уратаваў ад сібірскай тайгі, уладкаваў да свіней. Спакойнае, ціхае жыццё. Але ж нервуецца. Дурань, што ўжо нервавацца, нервы трэба пакінуць за варотамі турмы. Інакш — надоўга не хопіць здароўя. Бо нават свіней без здароўя не дагледзіш.

Позірк выпадкова апускаецца на руку Карнука, у якой цыгарэта. Дробненька дрыжаць пальцы, і скура жоўтая, з рудаватымі плямкамі, бы ў дзеда.

— Парасяты, як лялькі, нягоршыя, чым калісь у тваім калгасе,—робіць камплімент Сцяпану Мінавічу Карнук.

Што адказаць яму? Мо падзякаваць і радасна заўсміхацца? «Памыляешся, Вікенцій Пятровіч, у калгасе парасяты былі горшыя. Кармоў заўжды не хапала».

Не, усё-такі не мог уявіць Сцяпан Мінавіч, што мінуць тры гады і да яго далучыцца сам Вікенцій Пятровіч. Адразу, як яны спаткаліся ў турме, моцна карцела нагадаць, як павучаў усіх, крычаў на бюро. А ўнутры была парахня...

— Мо ты, Мінавіч, не хочаш са мной рабіць?—пытаецца Карнук, і ў яго вачах, напалоханых, з чырвонымі, як распухлымі, вейкамі, жах, які крывіць сутаргавата твар.

— Чаму, Вікенцій Пятровіч? Мы з вамі выгадуем найлепшых парасят за ўсю гісторыю гэтай фермы.

Яны паціснулі адзін аднаму руку і закурылі. Парсючок Карл варушыцца каля іхніх ног, але не ўстае. Сцяпан Мінавіч чухрыць яму спіну, і ён сціхае.

Сонца кволае, нейкае паўсоннае, але ўсё роўна здаецца, што цёпла. Да абеду яшчэ ёсць час. Сцяпан Мінавіч успамінае, што ў свінарніку сабралася шмат гною. Прапаршчык Зухвец можа ўзлавацца і напісаць рапарт.

Сцяпан Мінавіч пералазіць загарадку і ідзе да паветкі, каб узяць сахор. Ззаду чуваць хрыплае дыханне Карнука, дыханне старога курца і немаладога чалавека. Да абеду яны выкінуць гной, падсцеляць саломы. Потым... Усё-ткі шкада Карнука. Спярша, калі трапіў сюды, думае Сцяпан Мінавіч, і сам не ведаў да каго прыхіліцца, было страшна. Яму пашэнціла, удвух лягчэй. Але ж, бач, і Вікенцій Пятровіч не адкупіўся ад турмы. І хто!—той, у каго сувязі і ў вобласці, і ў рэспубліцы, і далей. Нібыта чакала яго ўжо высокая пасада ў Мінску...

Сцяпан Мінавіч лічыць, што па дурасці ў турме. Хоць ад вялікага розуму тут мала хто. Усе лічаць, што па дурасці. Мусіць, да скону ён будзе помніць тую салаўіную вясну, надзіва раннюю. Перад маем яны ўжо былі адсеяліся. І даў ён сабе крышачку палёгку: паехаў аднойчы на вячэру да суседзяў у калгас «Чырвоны партызан». Быў без шафёра—навошта сведкі. За рулём добры дзесятак гадоў, ездзіў і напідпітку не раз. Не меркаваў доўга сядзець, а выйшла наадварот. Кампанія была вясёлая, усе старшыні калгасаў. З раёна быў інструктар і чыноўнік з аграпрома. Мужчына салідны, паабяцаў Сцяпану Мінавічу запчастак для аўтамашыны. І ўрэзаў Сцяпан Мінавіч на радасцях так, як даўно не піў: аж уваччу задваілася. Развітваючыся, цалаваліся, абдымаліся, як жанчыны. Цьфу ты... Гаспадыня ўгаворвала не ехаць, але Сцяпан Мінавіч тады быў вельмі ўпарты, дый прывык начаваць у сваёй хаце. Язды той пятнаццаць хвілін.

Сеў ён за руль, упёрся рукамі і нагамі, здаецца, уваччу пасвятлела трохі. Дрэвы перасталі хістацца, усё набыло трываласць і надзейнасць. Помніў, як зрушыў з месца, выехаў на гасцінец. Лёгенька пакручваў руль, машына рвалася, як звер, уперад. Ён спяваў і ўся ягоная душа спявала. Як добра, калі шмат сяброў, з якімі можна пасядзець, адпачыць. Перад Навасёлкамі павярнуў па крузе ўлева. Да роднай хаты заставалася раўнюсенька пяць кіламетраў. Дарога чысцюткая, ніводнай машыны, і трэба ж, аднекуль з поля, з-пад кустоў выскачыў матацыкліст. Спярша Сцяпану Мінавічу здалося, што той быў адзін, а пасля ўбачыў: ззаду сядзела дзяўчына. Іх зачапіла перадам машыны, пацягнула за сабой. Калі Сцяпан Мінавіч нарэшце спыніўся, яны абодва ляжалі ў крыві на асфальце, а колы матацыкла ўсё яшчэ круціліся з шалёнай хуткасцю...

Ён успамінае часта да гэтага моманту, бо далей было проста, як па праграме. Дзесьці ў тым жыцці засталіся жонка з сынам. Карнук паклапаціўся пра яго, уладкаваў у гэту турму, пастухом да свіней. Канечне, гэта не тое, што на лесапавале...

Нібыта ўпершыню бачачы, Сцяпан Мінавіч уважна, з цікавасцю разглядае Карнука, які прабуе ўхапіць сахаром гной. Ён хрыпіць, кашляе, лоб мокры ад поту. Вядома, гной рваць у свінарніку не тое, што сядзець у кабінеце. Учора ён плёў кашалі і плакаў: яго абылгалі, зайздроснікі з'елі. З'есці не з'елі, а выплюнулі. Усё адна хеўра. Карнуку можна верыць найбольш на трыццаць працэнтаў, астатняе—казка. Кожны хоча, каб пра яго думалі лепш, чым ён ёсць.

— Перакурым, Пятровіч, — кажа Сцяпан Мінавіч.

Карнук хоць нічога не зрабіў, але намучыўся, хай адпачне. Ён з крэктам усаджваецца на камень ля сцяны, адкідваецца да яе спіной. Курыць з заплюшчанымі вачамі.

— Нічога, Мінавіч, мы яшчэ вернемся, — гаворыць Карнук. Яго застылыя вочы ажываюць, у іх ужо нянавісць. — Сядай. — У голасе ўладныя ноткі, быццам ён зноў на кані. — Перакусім. Хлопцы ўчора ўвечары перадалі. — Карнук расшпільвае ватоўку і з-за пояса штаноў дастае чорны скрутак. Заінтрыгаваны Сцяпан Мінавіч са здзіўленнем пазірае, як ён дастае пляскаты штоф «Белавежскай», паўпалкі «Сервілата» і цукеркі «Мішка на Поўначы». Такога багацця не бачыў даўно. На языку варушыцца, хоча сарвацца пытанне — скуль гэта ўсё, але Сцяпан Мінавіч стрымлівае сябе. І так ясна сказана: перадалі хлопцы.

Шклянкі няма, і Карнук п'е з рыльца. Глынуўшы, перадае Сцяпану Мінавічу. Ён робіць тое ж самае. У гэты момант яго нешта штурхае ў нагі, ён ледзь не падае. Д'ябал, парсючок Карл прытупаў ужо сюды. Няйнакш адчуў пах кілбасы. Карнук з размаху б'е яго нагой у жывот, і парсючок з віскатам адскоквае ўбок. Узбуджана пачынаюць рохкаць усе свінні, падымаюць галовы з лужын нават тыя, што драмалі, грэючыся на сонцы. Карл пакрыўджаны, і Сцяпану Мінавічу не спадабалася, што Карнук ударыў яго. Але мусіць, пара. Глытае «Белавежскай» і абдымае Карнука:

— Вікенцій Пятровіч, мой дарагі, да скону не забуду, што загадчыкам фермы зрабіў мяне. Хочаш, на калені стану?..

— Ну-ну, — махае рукою і смяецца Карнук, смяецца. Сцяпан Мінавіч таксама хіхікае, а праз хвіліну ўжо рагоча. Раптам ім абодвум забівае дых: у двух кроках ад свінарніка прапаршчык Зухвец. Сцяпан Мінавіч ускоквае з зямлі і выцягвае рукі па швах. Карнук нават не варухнуўся, сядзіць і трымае ў руках бутэльку. У галаве ў Сцяпана Мінавіча ўмомант святлее, і ён уяўляе найгоршае, што з імі можа быць. Шэпча Карнуку, каб схаваў бутэльку, але слоў сваіх не чуе, быццам адняло мову. Ох, як не хочацца ехаць на лесапавал вось з-за гэтай дурноты. Пра яго добра думаюць у турме, і начальнік паабяцаў пахадайнічаць, каб скасавалі тэрмін. Цяпер усё, і месца ўдзячнасці да Карнука займае нянавісць. Як загіпнатызаваны стаіць Сцяпан Мінавіч: толькі фіксуе вачамі, што прапаршчык Зухвец падыходзіць да Карнука, нагінаецца і нешта шэпча яму на вуха. Бярэ цукерку і хавае яе ў кішэню. Потым ляпае Сцяпана Мінавіча па плячы і жартуе, што ў яго выдатная выпраўка. Шырокая зялёная спіна прапаршчыка з кароткімі тоўстымі нагамі хутка знікае ў вузкіх варотах. Нібыта і не было Зухвеца, яны толькі адны і парсючок Карл, які, рохкаючы, лезе зноў у ногі, не верыць, што яго могуць пакрыўдзіць. Але Сцяпан Мінавіч ужо сам адганяе яго і толькі кідае ласунак — скібку хлеба. Карл амаль на ляту ловіць і чаўкае, ад задавальнення пускаючы сліну.

— Сядзь ты нарэшце, — незадаволена бурчыць Карнук. — Еш кілбасу... Да вечара далёка.

Зусім нядаўна гэтага немаладога чалавека з азызлым тварам баяўся цалюткі раён. Сцяпану Мінавічу неяк пашчасціла быць з ім у кампаніі. Тады якраз наведаў раён дэпутат Вярхоўнага Савета СССР, якога летась па хваробе адправілі на пенсію. І быў у лясгасе на базе адпачынку ў Дзямідаўскім бары, як кажуць, бэнц. Сцяпана Мінавіча і Саўку Каспяровіча, старшыню калгаса «Чырвоны партызан», таксама запрасілі. Але яны з Саўкам былі як у ліхога сына на вяселлі: сядзелі не разам з шаноўным госцем, а ў маленькім пакойчыку на кухні з вадзіцелямі. Сцяпан Мінавіч і Саўка адказвалі за фінансавую частку прыёму. Яны ўсё роўна ганарыліся гэтым, бо абы-якому старшыні Карнук не давяраў. Чалавек ён пільны, вопытны, столькі гадоў адбыў сакратаром райкома. Усё добра, калі б не адна ягоная слабасць. Многія на гэтым гараць: жанчыны і гарэлка. Яны і да турмы даводзяць... Не, шмат ён не піў. Сцяпан Мінавіч ніколі не бачыў яго напідпітку. Браў не больш, чым усе ў той самы застойны час. Дый лічылася нармальным канчаць сход ці канферэнцыю чаркай. Гэтыя бяседы ўзнімалі настрой, думае Сцяпан Мінавіч, мацавалі сяброўства... Карнук пры-

я ледзь не спяваю ад таго, што і ён разам са мною...»

У Карнука пад ватоўкай пададзеты світэр, хоць на вуліцы і не холадна. Твар у яго бледны, шчокі адвіслі, як у старой свінні. Але ж Сцяпан Мінавіч забыў, што свінні не дажываюць да старасці.

Карнук падыходзіць зусім блізка, дастае цыгарэты з кішэні, частуе. Які гонар, думае Сцяпан Мінавіч. Раней такога не дачакаўся б ад Карнука. Раней...

Сцяпан Мінавіч рэдка калі курыць, але бярэ цыгарэту і кладзе за вуха. Маўчыць, хоць бачыць, што Карнук

вельмі смачная кілбаса і ў бутэльцы шмат яшчэ «Белавежскай».

— Мы вернемся, Мінавіч, — паўтарае Карнук, грызе кілбасу, і Сцяпан Мінавіч, як клоун, міжволі хітае галавою і таксама мармыча: — Абавязкова вернемся. Толькі куды? — У галаве нейкае зацьменне, блытаніна. Некуды вернуцца, але куды? Канечне, вернемся, супакойвае сябе Сцяпан Мінавіч і зноў глядзіць на Карнука не як на зэка, а як на першага сакратара, найразумнейшага ў раёне чалавека. Час ужо і падзякаваць за тое, што дапамог уладкавацца загадчыкам гэтай фермы. Думаў не гаварыць, але,

**Віктар СУПРУНЧУК**

гледзеў сабе кабетку. Яна некалі сядзела ў райспажыўсаюзе. Мо колькі разоў і бачыў яе Сцяпан Мінавіч. Нічога асаблівага: чарнявая, вялізныя залатыя завушніцы. Валасы чорныя, шорсткія, як конская грыва. Потым прыязджала ў калгас ужо як інструктар райкома партыі. Вучыла, як жаць жыта. Чарнявенькая закілзала Карнука так, што ні туды і ні сюды. Грошай давай як паболей, і пачаў ён дзерці іх са старшынь калгасаў. Самы росквіт Карнуковага кахання быў, калі апынуўся Сцяпан Мінавіч на гэтай свінаферме. Карнуку проста не пашэнціла: гадоў пяць назад выйшаў бы сухім з вады. А тут пачалі круціць галовы няроўна яму. Урэшце, што яму да Карнука, трэба дбаць пра сябе, думае Сцяпан Мінавіч. У іх артыкулы аднолькавыя, а тэрмін у Карнука ўдвая меншы. Мусіць, нядоўга ён будзе памочнікам на свінаферме. Лёгка жыў Вікенцій Пятровіч, быў у сябрах у абкомаўскага начальства. «У фаварытах быў, як у мяне цяпер Карл»,— думае Сцяпан Мінавіч. А побач зноў рохкае парсючок, падліза... Няйнакш і ён кілбасы хоча.

Каля Карнука на газеце ляжыць яшчэ ладны кавалак «Сервілата». Сцяпан Мінавіч бярэ яго і кідае парсючку, які есць яе, здаецца ажно прытанцоўваючы ад шчасця. «Фаварыты... Любіце кілбасу, «Сервілат» любіце... Ха-ха-ха...»

Ну, пасядзелі і хопіць. Гной хто будзе за іх выкідваць са свінарніка?

Сонца схавалася за хмарамі, і холад палез пад ватоўку, пагнаў мурашоў па целе. Карнук нібыта прыдрамаў, разявіў рот, дыхае спакойна. Проста шкада яго чапаць. Мо няхай паспіць... Але не, няблага, калі і рукі трохі памазоліць, раптам злуе Сцяпан Мінавіч. Таксама мне фаварыт... Тут я начальнік, а не Карнук.

— Гнюю шмат! — крычыць, каб разбудзіць Карнука. А той — нават не варушыцца. Потым мармыча і муляе губамі:

— Гм-гм...

Мо сніцца, што есць «Сервілат»? Ці бачыць сваю чарнявенькую? Нядобра думае ўжо пра Карнука Сцяпан Мінавіч, але нічога не можа зрабіць з сабою. Чорныя думкі лезуць у галаву. Яму ўжо хочацца паздзекавацца з гэтага былога начальніка, паганяць да сёмага поту.

— Устаць! — амаль істэрычна крычыць, і Карнук імгненна ўскоквае і есць яго вачамі. У іх страх, рукі ходзяць ходырам. Радасна думае Сцяпан Мінавіч: сувязі ў цябе і тут ёсць, але ж мяне баішся. Тут свае законы, свае правілы гульні...

— Што, што такое? — пытаецца Карнук. Сцяпан Мінавіч не адказвае, глядзіць, як да яго, пыхкаючы, падыходзіць Карл. З газеты забірае рэшткі кілбасы, чаўкае. Яшчэ хвіліна і, мусіць, Карнук ударыць яго нагой у жывот. Узнімае нагу...

— Пайшоў, пайшоў! — перацягвае парсючка Сцяпан Мінавіч дубцом упоперак спіны. Сваім віскам Карл палохае ўсіх свіней, і яны з рохканнем пачынаюць насіцца па дварьі.

— У нас, Вікенцій Пятровіч, хто не працуе, той не есць,— гаворыць Сцяпан Мінавіч, але яму чамусьці сорамна глядзець у вочы Карнуку.

Ужо без перапынку яны дзяруць і дзяруць гной у свінарніку, складваюць яго ў кучы. Цяпер Сцяпан Мінавіч ні аб чым не думае. Ён прымушае сябе ні аб чым не думаць, бо тут твае думкі нікому не патрэбны. На Карнука не глядзіць, неяк усё роўна ёсць ён ці не. Падняць галаву ад зямлі прымушае свінячы віскат. Так можа толькі вішчаць Карл — тоненька, пакрыўджана. Незразумела, хто яго пакрыўдзіў. Сцяпан Мінавіч набліжаецца да варот і, прыкрыўшы далонню вочы ад сонца, якое ўзнялося вышэй хмар, бачыць, што на двары гаспадараць прапаршчык Зухвец. З салдатам яны заганяюць парсючка ў кузаў грузавога «Уазіка». Карл вішчыць так, нібыта просіць дапамогі. Сцяпан Мінавіч сціскае рукі ў кулакі, адварочваецца ад дзвярэй. Нейкі момант стаіць, прыслухоўваючыся, пасля апантана працуе, каб толькі больш не чуць гэтага амаль чалавечага крыку... Здаецца, мала паветра ў свінарніку, з усіх бакоў толькі краты, краты. Побач, з пабялелым ад стомы тварам, крэкчучы, цягае гной Карнук. У Сцяпана Мінавіча раптам мільгае жарсткава-здзеклівая думка: ці ёсць у яго яшчэ кілбаса? Урэшце, хто тут начальнік? На неба яны яшчэ доўга будуць глядзець праз краты...

А на двары зноў ціха, свінні ляжаць у лужах, грэюцца на сонцы. Нібы і не было ніколі сярод іх Карла, парсючка з руговенькім лычом, ягонага фаварыта.

Цішыня...

## П А Э З І Я

### Мар'ян ДУКСА



#### Тварэнне радасці

*Двойчы Герою Сацыялістычнай Працы старшыні калгаса «Савецкая Беларусь» Уладзіміру Лявонцьевічу БЯДУЛЮ.*

Не голых фраз
сухая траскатня,
не цяга
на трыбуну узабрацца —
усіх тут вабіць
на пачатку дня
глыбінны покліч
хлебаноснай працы.
Не той,
калі араць, садзіць, касіць
мы па загаду цвёрдаму
павінны,
маўчаць і ведаць:
над спіной вісіць
караючая
пуга дысцыпліны.
Не той,
калі твой асабісты ход
пазначаны
ад вешкі і да вешкі.
А плён які —
ўмалот ці недарод —
не тычыцца цябе —
маленькай пешкі...
А клопат тут
ва ўсіх, ва ўсіх — адзін:
да добрых спраў
сваю душу прыкласці,
і родны кут,
калі яму ты сын,
зрабіць прыдатным
для людскога шчасця.
Як найхутчэй
для цёплых баразён
аддаць свой плён
любові і гарэння.
Галоўнае —
не рапарт у раён,
а чалавечай радасці
тварэнне.

#### Жытняя паляна

Усхваляваны жытні плёс
на лета ўсё, а не на трохі,
прыпаў з трымценнем да бяроз,
да мяккай маладой чаромхі.

Нібы смакуе спакваля
цяпло спагады і падтрымкі,
перажываючы галля
густыя шчырыя абдымкі.

І ў час світальны каласы,
каб пацяжэць і ў зерне выйсці,
п'юць прагна кропелькі расы,
ледзь дакрануўшыся да лісця.

У хлебным водарным гаі,
каб радасць зліць жыцця-суполкі,
злучаюць пошчак салаўі
з задумным свістам перапёлкі.

На зелень, нібы на абрус,
прамені сонейка цярушыць...
Вось гэтай яснасці саюз
мне так не хочацца парушыць.

Адчуўшы спеў сэрцабіцця,
прысяду, ціхі ад лагоды.
Благаславёны час зліцця,
яднання збожжа і прыроды!

●

Я незвычайнай шчырасці хачу —
кудысьці варту з сэрца адаслаць,
каб зззяла яснасць поўная ўвачу.
Ну колькі можна ў хованкі гуляць!

Я веру ў шчырасць, а таму магу
у хітрай тайны расчыніць акно,
развеяць падазронасці смугу
і ў ісціны разбіць двайное дно.

О колькі дабрыні перамалоў
наш грозны век — далоў яго банкет!
Далоў, далоў усе капканы слоў
і іхні фарысейскі этыкет!
Прасеяная звабнасць песні — прэч!
Крывёй вітаю шчырасці пару.
Адзін вар'ят і той не ўздыме меч
на праўду, аб якой я гавару.

●

На гэты раз
суніц паспела многа,
ажно заззяла
чырвань на грудку.
Згінаюся,
але перасцярога
мяне трымае моцна
за руку.
Між цёплых пахаў
я блуджу ад рання.
І ўсё дарэмна.
Не паўнее збан.
Чарнобыльскае
воўчае дыханне
мне чуецца
над зеленню палян.
А па сцяжынцы
мурашы блукаюць,
і ім да бед
няма ніякіх спраў.
Маўчыш, зязюля,
можа, ты чакаеш,
каб я табе
твой век пракукаваў...

#### Чарнобыльскія перасяленцы

На свежы дах спусціўшыся з гары,
гуляюць сонечныя пратуберанцы.
Лічы, усё даведзена да глянцу:
веранды, вокны, сцежкі на двары.

Ёсць унутры серванты і трумо,
усё начынне мае выгляд боскі...
Ды на абліччы збудаванай вёскі
ляжыць бяды пякучае кляймо.

Цвітуць півоні на ўзвышэнні град,
буяе пышна агурэчнік чыйсьці —
паверх пялёсткаў, маладога лісця
бяжыць, як босы сірата, пагляд.

Стаў грукатлівым вельмі часу бег,
а плыў жа ціха, нібы па рацэ, ён...
Знікае смех, бы хтосьці па рэцэпту
стаў выдаваць калісьці танны смех.

Прайсці журбе ў вароты шмат прасцей,
бо радасць раптам страціла адвагу.
Але было б зусім, напэўна, блага,
каб не гучала — музыка дзяцей!

### Яўген КРУПЕНЬКА



●

Думаў, вырас —
і далей не трэба,
Бо сваё сказалі ўжо гады.
Вунь і дуб,
Які сягаў да неба,
Асыпае звонка жалуды.

І цяпер стаіць,—
Яшчэ не голы,
Лісце не скідае да зімы.
І не падае нікому голас...
Нібыта нямы!

Толькі ж не нямы ён!
Я сцвярджаю:
Ён у сталасць увайшоў, як я.
Вымыты
Усімі ён дажджамі
Ад купчастай кроны да камля.

І прыняўшы
Столькі вострых стрэлаў
Вогненных —
Пярун у крону б'е,—
Выстаяў
І сталасць сваю стрэў ён,
Пастаяўшы за сябе.

І цяпер ён,
Духам не упаўшы,
У маўчанні-роздуме стаіць,
Стрэне буры новыя ў бясстрашшы,
Будзе зелянець
І будзе жыць!

Будуць асыпацца
Зоры, ліўні,
І раса іскрыцца у лісці.
На яго гляджу
У спелым жніўні,—
І — усё ж!—
Патрэбна мне расці!

#### Дровы

Мужчыны пасля вайны,
Вядома,
Не былыя партызаны і салдаты,
А тыя, што разам з курамі
Пад печчу ад фашыстаў хаваліся,
Адразу пасля вызвалення
Першымі ў вёсцы
Сабе будавалі звон-хаты
І гаварылі нашым мацяркам-удовам:
«Мы сваю справу зрабілі:
Ворагаў разбілі,
І адваяваліся».
Нашы маці-удовы,
Нахмурыўшы бровы,
Глядзелі на іх сурова,
А пікнуць баяліся:
У іх — сіла,
У іх — не галодныя дзеці,
Збожжа поўныя клеці,
У хлявах мычаць каровы,
Хрукаюць свінкі,
Пішчаць парасяты
І заўсёды прывезены на кані дровы.
Папіленыя,
Пасечаныя,
Складзеныя ў клеткі,
Плакалі дровы
Слязамі — жывою смолкай,
На сябе гледзячы.
А мы, дзеці-бязбацькавічы,
Былі нават удзячны
Мужчынам — адшчапенцам-нелюдзям:
Прышоўшы па дровы ў лес,
Мы таксама дадому
Не з пустымі рукамі вернемся —
Вунь колькі галля і макушак
Ляжыць каля пнёў смалістых,
Непрыхаваных мохам.
Бяры столькі,
Колькі на плячах худых данясеш.
Рыгоркі, Максімкі, Жэнькі,
Сцёпкі, Толікі, Вовы —
Дзеці вайны і нішчымніцы —
Шчыра ўдзячны табе, лесе,
За тыя дровы,
Што рабілі толькі цёплымі
На печах чараны,
На якіх мы грэліся
І пры газоўках і лучынах
Кніжкі чыталі
Зімовымі вечарамі.
А ў тваім выратаванні, лесе,
Дапамагчы не маглі нічым табе.
Мы былі тады толькі
Хлапчукамі.

●

*О тебе я думаю...*
*Расул ГАМЗАТАЎ.*

Калі я цябе не бачу,—
ты ў думках маіх, трывогах;
і што толькі я не рабіў з імі, —
не змог іх выкінуць з галавы,
пазбавіцца ад іх праследвання.
Вясною я іх заараў плугам,
а яны —
прараслі ў глебе,
і зарунелі зялёнымі ўсходамі;
Я занёс іх на сухія лясы і закінуў,
а вярнуўшыся дамоў,
яны ўжо апярэдзілі мяне —
іх прынёс вецер;
Я панёс і ўтапіў іх у гнілым балоце,
а яны ўвосень на купінах
запунсавелі журавінамі,
нібы твае губы,
якія сваім пацалункам
не раз апякалі мяне.
Скажы,
колькі яшчэ гадоў
буду мучыцца я, як Сізіф?

#### Пікасо

Перад мастацтвам я заўжды нямы.
Я — у палоне. Не прамоўлю слова.
Я — нібы коннік, што без галавы,
Акружаны анёламі Рублёва.
Яны — жывыя! Нібы на далоні.
Яны зямной любуюцца красой.
Яны, як я, здзіўляюцца няўмольна
Перад тварэннем вечным Пікасо.
Дзяўчынка на шары. І шар — зямля.
Шар, а не яблык. Яблык дзелім часта
На дзве ці пяць і нават болей частак.
Шар Пікасо нас вучыць раздзяляць.
І мне, і многім цяжка зразумець.
Цудоўнае бяссмертнае тварэнне.
Век — сто гадоў. Сто першы, значыць, смерць.
Палова — пошук. А другая — геній.
Палова — ноч. Другая — значыць — дзень.
Палова — сон. Палова веку — праца.
Палова — пекната. Жыццё. Жывы прамень.
Другая — немагчыма разабрацца.
Перад мастацтвам — я без галавы.
Смерць адышла з наострэнай касой.
Я — у палоне. Я — гляджу.
Жыву.

# СТРАКАТЫ, РАЗМАІТЫ, НЕВЫЧЭРПНЫ...

**Нататкі пра першы Міжнародны фестываль аматарскіх тэатраў у Венгрыі**

У ДЗЕВЯТЫ раз маленькі прамысловы гарадок Казінцбарцыка на паўночным усходзе Венгрыі ператвараўся ў фестывальную сталіцу. 12 лепшых калектываў краіны, а таксама з Англіі, ГДР, Савецкага Саюза, ФРГ, ЧССР былі ў цэнтры ўвагі яго жыхароў. Васемнаццаць гадоў назад нарадзілася ідэя такога ўсевенгерскага фестывалю. Аматарскае мастацтва тады набірала моц, але тэатры жылі, як суседзі ў шматкватэрным доме — кожны сам па сабе. Фестываль жа не толькі даў магчымасць шырокіх зносін, адкрыцця наватарскіх прыёмаў і пашырэння рэпертуару, але і сумесных дзеянняў у развіцці жанру.

Для ажыццяўлення гэтай задумы не давялося доўга шукаць месца. Казінцбарцыка падтрымала яе адразу, хоць ніякіх асаблівых умоў тут няма. Адзіная сцэнічная пляцоўка — Палац культуры — зусім не апошняе дасягненне тэатральна-інжынернай думкі, а штодзённа ў праграме было па 4—5 спектакляў і кожнаму калектыву патрабаваўся час для рэпетыцыі, устаноўкі дэкарацый. Таму пад другую пляцоўку прыстасавалі спартыўную залу мясцовай сярэдняй школы, дзе «недахоп» сцэны і драўляных лаў для гледачоў папоўнілі гімнастычныя маты, а адсутнасць элементарнага тэхнічнага абсталявання і вентыляцыі—гарачай падтрымкай удзельнікаў фестывалю. І ніхто не ламаў сабе галавы, дзе ўзяць транспарт, каб сустрэць гасцей на вакзале — не маленькія, знойдуць дарогу самі; каб са звышкамфортам рассяліць іх — досыць рабочага інтэрната; каб пазнаёміць з горадам і наваколлем — на гэта проста не будзе часу... Па вопыце ведаю, што для нас такія «дробязі» маюць першаснае значэнне, але затое венгерскія калегі праводзяць фестываль тэатра і ў імя тэатра.

Адкрыццё было падкрэслена дзелавым. Ні шэсця па вуліцах і пляцах, ні карнавалаў, ні прамоў. Узнялі сцягі фестывалю і Міжнароднай асацыяцыі аматарскага тэатра (гэта быў першы фестываль, які праводзіўся пад яе эгідай і таму меў статус міжнароднага) і пачалася праца. Не свята, а менавіта праца — з 9 гадзін раніцы і... да раніцы: абмеркаванне ўбачанага, дзелавыя і сяброўскія сустрэчы, спектаклі, эцюды, відэафільмы.

Сёлета былі прадстаўлены дзве катэгорыі тэатраў — так званыя альтэрнатыўныя, што працуюць на ўзроўні прафесійных авангардысцкіх груп, і, так бы мовіць, сярэдняй рукі, але вельмі стабільныя маленькія тэатры-студыі. Адразу ўдакладню — наш «Дыялог» быў залічаны да першай катэгорыі! З венгерскіх калектываў (а конкурс праходзіў толькі паміж імі) найбольшую цікавасць гледачоў выклікала будапешцкая група І. Самагі, якая паказала манументальны і шматслаёвы спектакль «Тысячагадовая імперыя». У ягонай аснове—філасофскае асэнсаванне гуманізму. Гэта—спектакль атмасферы, дзе ўсё мастацкае афармленне выканана ў нейкім фантастычным стылі з сюжэтамі Босха; дзе сама па сабе іграе кожная дэталь — маскі, касцюмы, святло; дзе арганічна паяднаны музыка і пластыка.

Гэты тэатр мусіў задаць тон конкурсу. Яшчэ пяць гадоў назад першай пастаноўкай «Майстра і Маргарыты» М. Булгакава ён «нашумеў» у Венгрыі. З тых часоў ён атрымлівае стыпендыю амерыканскага мільянера Шораша, якая дазваляе не проста бязбедна існаваць, але і ўтрымліваць дзесятак прафесійных акцёраў (адсюль і ўзровень майстэрства, і аўтарытэт).

І патрэбны тон быў зададзены. і да заканчэння конкурсу цяжка было аддаць каму-небудзь перавагу.

Журы мелася «судзіць» тэатры самыя розныя: сацыяльна-псіхалагічныя драмы, палітычныя, агітацыйныя, звышабсурда, камедыйныя. Хоць ніводзін замежны (у тым ліку і наш) калектыў у конкурсе не ўдзельнічаў, але іх работы былі ў цэнтры спрэчак. Тэатр з Чэхаславакіі парадаваў вострасацыяльнай музычнай камедыяй «Цётка Чарлі», дакладнасцю і тонкасцю рэжысёрскага вырашэння, «тварэннем гульні на сцэне»; бліскучую гульню з рэчамі падала ў спектаклі Х. Астарэка «Дон Кіхот гутарыць з сябрамі» трупа з ГДР: музычнасць і высокую культуру руху прадэманстравалі ў серыі эцюдаў «Пот» маладыя англічане.

Вытрымаць такую моцную канкурэнцыю нашаму тэатру было даволі складана. Па-першае, таму, што ўвогуле думка пра савецкія калектывы за мяжой не вельмі высокая (да гэтага часу на ўсевенгерскіх фестывалях папрысутнічалі толькі два), а па-другое — «Дыялог» «па-за домам» выступаў зусім няшмат — у Каўнасе і Маскве. Студыя працуе ўсяго два гады, прычым на абжытай, створанай сваімі рукамі сцэне ў склепе Палаца чыгуначнікаў. А паколькі ў Венгрыю прыехалі не ў поўным складзе, давялося запрасіць у масоўку ўдзельнікаў мясцовага драматычнага гуртка і чароўную пяцігадовую Лівію —дачку аднаго з работнікаў мясцовага Палаца культуры. Яе за паўгадзіны ўвялі ў спектакль, чым пакарылі ўвесь тэхнічны персанал. Хоць і да гэтай пары не ўзнікла да яго ніводнай прэтэнзіі, а здзіўляла якраз адваротнае: «Вам патрэбны чырвоныя фільтры? Хвілінка! Не падыходзяць, лепш жоўтыя? Яшчэ хвілінка. Магнітафон? Які? Ёсць любы, японскі падыдзе?». Не было такой праблемы, якую б не вырашылі ў Палацы культуры адразу з вялікай ветлівасцю і разуменнем.

Але хваляванні мінчан хутка скончыліся. Цікавасць да савецкага калектыву была падкрэсленай і вялікай. Калі гледачоў упусцілі ў залу, а яны, паводле задумы рэжысёра В. Грыгалюнаса, увазходзілі, калі спектакль пачаўся, здалося, што ім не будзе канца — усе месцы былі заняты, людзі сядзелі на падлозе, стаялі ў праходах, а пад час дзеяння не было чуваць традыцыйных размоў і шэптаў...

«Чыкагская бездань» Р. Брэдберы ў пастаноўцы В. Грыгалюнаса атрымала падтрымку ўдзельнікаў і станоўчую ацэнку журы. «Дзяжурны» па спектаклі Т. Ашэр на ранішнім абмеркаванні адазваўся аб ім як аб «вельмі культурнай і таленавітай рабоце». Але члены журы адзначылі і састарэласць рэжысёрскіх прыёмаў, і гукавыя, светлавыя і іншыя пагрэшнасці.

Калі параўнаць мінскі тэатр з венгерскімі калектывмі, дык ён стаў побач з названай ужо групай з Будапешта. Размова з яе рэжысёрам І. Самагі выявіла, што іх пазіцыі супадаюць і ў канцэпцыі, і ў стылістыцы, і ў прынцыпах работы з акцёрамі. Да ўсяго венгерская тэатральная грамадкасць зрабіла *для сябе адкрыццё:* «Чыкагская бездань» зроблена не паводле навелы, а паводле аднайменнай п'есы Р. Брэдберы. Венграм быў вядомы толькі першы твор.

Апагеем фестывалю зрабілася выступленнне заходнегерманскага тэатра «Танкерпрэксус» (назва гэта нічога не азначае, паколькі складзена з першых літар акцёрскіх імёнаў), які п'есай «Сцяленне пасцелі» Р. Данемана прадставіў напрамак постабсурду з яго дэкампазіцыяй і дэканструкцыяй, праз якія побытавыя з'явы, рэчы *на нашых вачах напаўняюцца* самым нечаканым зместам (сэнс і логіку пераўтварэнняў, праўда, злавіць немагчыма). У тэатры — выдатныя акцёры, высокая ступень самасвядомасці, сцэнічнай культуры. Таму зала была аднадушнай, калі тэатру ўручалі спецыяльны дыплом (ніякіх крышталёвых вазаў і кубкаў не было) аргкамітэта і сімпатый гледачоў.

І хоць, па сутнасці, гэтым выступленнем фестываль завяршыўся, сюрпрызы не скончыліся. Апошняя ноч была часам эцюдаў. Адзін з іх, «Рэвю падлеткаў» у выкананні вучняў тэатральнай гімназіі горада Хорваша, пакарыў стомленых людзей абаяннем, свежасцю, грацыяй і музычнасцю. Цяжка ўявіць, чым яшчэ пасля чатырох дзён работы можна было здзівіць спакушаную публіку, але... здзівілі. І тое, што гэта зрабілі дзеці, надало асаблівы сэнс фестывалю — аматарскі тэатр невычэрпны...

**Святлана ЦІВАНАВА.**

---

ла — «фірменная марка» «Песняроў»!

Духам найвысокай агульнай, музычнай, выканаўчай культуры нумара «Прозаседавшиеся» падрыхтавана логіка яго непасрэднага стасунку са шчырым і трагічным зваротам да Леніна. «Размова з таварышам Леніным» не можа прайсці незаўважна: знікаюць напластаванні электроннага гучання, адыходзіць (цяпер ужо назусім, да канца спектакля) гратэскавасць, і ачышчана, нібы на споведзі — не перад папом, а перад самой сутнасцю і праўдай жыцця — гучыць: «Двое в комнате. Я и Ленин...» З музычнай мовай гэтага маналога можна паспрачацца: ёсць у ім і пампезнасць, якая накіроўвае памяць да вобразнага ладу песень пра «вождя и лучшего друга народов» 30 — 40-х гадоў, і пэўныя неправадоленыя цяжкасці музычнага ўвасаблення верша Маякоўскага. Аднак у кантэксце ўсёй праграмы «Размова з таварышам Леніным»—гэта кульмінацыя, вяршыня працяглых маральных пошукаў, пэўны — услед за Маякоўскім, цвярозы і горкі — вынік, за якім — новая бездань праблем... Музычная акаймоўка вяртае зацёртым у школьных праграмах вершам іх жывую сутнасць, з паэта скідаецца непранікальны панцыр манументальнасці, увасхрашаецца яго пакута — бязмежная і магутная, з якой калі і звяртацца — дык толькі што да Леніна.

І менавіта вобраз Маякоўскага-Чалавека, аграмаднага — «сплошное сердце» — робіцца апошнім штрыхом спектакля, заканчваючы яго гармонію і ў той жа час абрываючы, ламаючы яе на паўслове — так, як абарвалася жыццё паэта.

«...Ты посмотри, какая в мире тишь...» — гэта ўжо аднекуль адтуль, з незямнога, гэтым радкам не патрэбна амузычванне, яны самі — музыка, і Уладзімір Мулявін іх чытае — на фоне ціхай тэмы ўступу з «Паслухайце!». Але і тут — як на грані «раздзелаў» спектакля, толькі яшчэ больш рэзка, балюча — і тут гэты чарадзейны рух разбураецца імпульсіўнай тэмай-рэфрэнам, якая знітоўвае музычную драматургію ўсёй праграмы. Нявырашаны, па сутнасці, загнаны ў тупік боль Паэта — «Я знаю силу слов...» (на інтанацыях маналога «На ўвесь голас») і такі ж непрыкаяны боль Чалавека — музычны пераэоў з нумарам «Лілечка» — вось адкрыты фінал спектакля, пераканальнае ўвасабленне трагічнай незавершанасці жыцця *Уладзіміра Маякоўскага.*

**А цяпер — пра прозу ўзаемаадносін спектакля «На ўвесь голас» (адпаведна — ансамбля «Песняры») з кіеўскай публікай.**

**Эстрада, прынамсі, музычная эстрада — жанр, які традыцыйна вымагае пастаяннага абнаўлення — абнаўлення тэм, музычнай мовы, знешняга аблічча выканаўцаў. Для таго, каб быў сэнс такія патрабаванні жанру выконваць і, галоўнае, каб, выкананыя, яны даходзілі да «спажыўца», г. зн. слухача-гледача і засвойваліся ім, патрэбна высокая аператыўнасць і высокая ж культура сродкаў масавай інфармацыі. Тут — і спецыяльныя рубрыкі, і адпаведныя перыядычныя выданні, перадачы радыё і ТБ, і рэклама, і... і... і... Калі ўсё гэта працуе на таленавітага выканаўцу — тады ў яго ёсць шанц своечасова сфарміраваць свайго гледача і весці гэтага гледача за сабой, развіваючы, мадэрнізуючы яго густ і і не губляючы глядацкую цікавасць да свайго мастацтва, якое таксама развіваецца.**

**Ашаламляльны поспех працы «Песняроў» над беларускай народнай песняй быў невыпадковы і трымаўся вельмі доўга. Але ўжо дасягнуты поспех — гэта адно, а праграма «на заўтра», неабходнасць рухацца, развівацца — гэта крыху іншае. «Песняры» ўзяліся за новыя для сябе формы — опера-прытча, каляндарна-абрадавы цыкл народных песень, купалаўская праграма, цыкл песень на вершы Р. Бёрнса—і рэальна знайшлі свежыя фарбы, абнавілі сваю мову, узбагацілі інструментарый... Але не заўважыць падзення глядацкага здаровага ажыятажу вакол калектыву (ва ўсякім выпадку, у Кіеве) немагчыма. Адышлі ў легенду «лішнія білецікі», бясконцыя «бісы», натоўп вакол сцэны ў канцы канцэрта... Што гэта? Дэградацыя ансамбля? Дык не ж, наадварот...**

**«Песняры», дзякуючы перпетуум-мобіле стваральнага таленту У. Мулявіна, ідуць сваім, надзіва індывідуальным шляхам, асвойваюць новыя тэмы, новыя прыёмы, новы ўзровень майстэрства, а «паважаны публікум» (як гаварыў герой кінафільма «Цырк») і не думае рухацца з месца, у масе сваёй усё чакае «Александрыну»... Чаму так? Ды таму, што агульная культура глядзельнай залы на эстрадным канцэрце, у асноўным, катастрафічна нізкая, таму, што ў гэтай зале мала хто спрабуе задумацца і зразумець: таленавіты выканаўца абавязкова так альбо іначай рассоўвае запраграмаваныя рамкі свайго жанру — гэта, зрэшты, і ёсць мастацтва.**

**У «Песняроў» пакуль яшчэ хапае сілы перамагаць і прывабліваць інертнага гледача, і гэта выдатна даказаў тыдзень гастроляў у Кіеве: страшна сказаць, колькі людзей пакідала канцэрты ў першыя дні, да канца ж гастроляў больш-менш сфарміравалася першапачаткова зацікаўленая аўдыторыя. Але ці клопат гэта калектыву на гастролях? Гледачы проста павінны ВЕДАЦЬ, куды яны прыйшлі. А зірніце, чаго варты адны толькі афішы з аскетычным пералікам прозвішчаў «у слупок»...**

А зрэшты,— закончым лепш гаворку пра мастацтва.

Не магу не адзначыць выдатную выканальніцкую форму «Песняроў»: не помню, калі ў апошні раз вакал У. Мулявіна, В. Дайнекі быў у такім выдатным стане, нарэшце зніклі рэгістравыя «стыкі» ў І. Пені. І ўсё ж ад аднаго папроку я не ўстрымаюся: як і некалькі гадоў назад (і мне даводзілася тады гаварыць пра гэта на старонках «ЛіМа»), у асобных нумарах праграмы бракуе ці то артыкуляцыйнай выразнасці вакалістаў, ці то чуйнасці гукарэжысёраў, ці то зашмат дэцыбелаў. Што б там ні было, а У. Маякоўскі варты таго, каб кожнае яго слова было пачута.

За час гастроляў «Песняроў» не раз даводзілася чуць, што, маўляў, немагчыма было ўявіць сабе праспяванымі «Размову з таварышам Леніным», «Некалькі слоў пра маю маму» і іншыя вершы Маякоўскага.

Дзякуй, «Песняры»!

**Вольга МАНЕТАВА.**
г. Кіеў.

---

ЛЯ КНІЖНАЙ ПАЛІЦЫ

## НЁМАНАМ З'ЯДНАНЫ НАВЯКІ

«Вытокі нашага любага Нёмана пачынаюцца на Беларусі. Гэтая рака — сімвал сяброўства беларусаў і літоўцаў, крыніца натхнення шматлікіх нашых песень і вершаў»,— так гаворыць у сваім слове «І Нёман, і масты сяброўства...», якім адкрываецца зборнік нарысаў і публіцыстыкі «Наш Нёман», складзены Л. Інісам і С. Панізнікам, Э. Матузявічус. Кніга гэтая незвычайная. Падрыхтаваная па рашэнню сакратарыятаў Саюза пісьменнікаў Беларусі і Літвы, яна адначасова пабачыла свет у дзвюх братніх рэспубліках.

У нас гонар выпусціць гэтую своеасаблівую анталогію дружбы, інтэрнацыянальнай еднасці выпаў выдавецтву «Мастацкая літаратура». Быццам працягваючы слова свайго сябра Э. Матузявічуса, Максім Танк у артыкуле «Гартаючы лісткі календара» заўважае: «Нас параднілa даўняя шматвяковая дружба. На берагах Нёмана — Нямунаса, Віліі — Нярыс шумяць тыя ж самыя сосны і нівы, гняздуюцца і спяваюць адны і тыя ж птахі, падобныя ўзоры на ручніках, адны і тыя нягоды і радасці гучаць у народных думах, абрадавых песнях, бо аднолькавыя гістарычныя повязі лучаць нашы народы».

Кніга і пабудавана такім чынам, што на старонках яе пачаргова выступаюць літоўскія і беларускія пісьменнікі і журналісты. Тры раздзелы — тры прыступкі ў свет братняй лучнасці. Першы «У віхуры баёў»— расказ пра гартаванне інтэрнацыянальнага адзінства. Узнаўляюцца падзеі даўніны і рэвалюцыі, Вялікай Айчыннай вайны. Гаворку аб гэтым вядуць Р. Ванагас («Наступнікі»), М. Шумаўскас («У віхуры баёў»), А. Карпюк («Роздум пра земляка»), Э. Улдукіс («Героямі яны не былі»), А. Савіцкі («Зялёна-зялёная рунь») і іншыя.

У раздзеле «Наш Нёман» — слова пра сённяшні стан узаемаадносін паміж двума народамі-братамі, гаворка аб тым, як у дружнай савецкай сям'і поруч працуюць літоўцы і беларусы, як многія з іх знаходзяць сваю другую радзіму ў братняй рэспубліцы. Аўтары раздзела В. Якавенка («Зямля, з якою разам рос»), У. Ліпскі, В. Бараўскас («Замкі над возерам»), В. Мыслівец («Сябруюць першынцы»), М. Герчык («Таварыш старшыня»), А. Капусцін («На палескай зямлі»), А. Васілевіч («Літоўка»), А. Мальдзіс («Трое з Астравеччыны»), А. Махнач («Наш Нёман»)...

«У памяці і ў жыцці» — гэта выхад на тыя масты дружбы, якія лучаць між сабой літаратурныя кантакты і ўзаемасувязі. Кола аўтараў таксама прадстаўнічае. В. Місявічус зазірае ў глыбокую гісторыю — «Вялікія злыбеды Францыска Скарыны ў Вільні». Гісторыя, праўда, больш блізкая да нас, цікавіць і Е. Склютаўскаса («У памяці і ў жыцці»), калі ён расказвае пра сяброўства Людаса Гіры з Янкам Купалам і Якубам Коласам. А. Гардзіцкі гутарыць з Э. Матузявічусам («Хлопцы, трэба перакладаць»), П. Палілёніс — з В. Быкавым («Слова ў атамны век»). Уражаннямі ад сустрэч з літоўскімі пісьменнікамі, іх творамі дзеліцца Я. Брыль («Сёння і памяць»). А. Вярцінскі дапамагае ўвайсці ў неабсяжны свет творчасці і жыцця М. Чурлёніса («Сонечны гараскоп Чурлёніса»).

**В. ЗУШЧЫК.**

**ТЭАТР**

# ГАМЛЕТ у нізкім жанры

**Прэм'ера ў Тэатры-студыі кінаакцёра**



Гамлет з'явіцца на сцэне непрыкметна. Дарэмна шукаць яго ў свіце караля Клаўдзія. Ён згубіцца ў натоўпе, бязлікі і невыразны, як і астатнія прыдворныя. Калі ж новы правіцель Даніі хцівымі словамі любові і прыязнасці выцягне пляменніка з грамады і прымусам пасадзіць у каралеўскае крэсла, нядбайна надзеўшы яму на галаву карону, Гамлет страціць апошнія прыкметы прынца Дацкага і наблізіцца да ўбогага (паводле пастаноўшчыка) блазна Ёрыка...

Шчыра кажучы, такі Гамлет адразу шакіруе, і спатрэбіцца пэўны час для пераадолення ўнутранага супраціўлення, каб не столькі прыняць адкрыта эпатажную трактоўку шэкспіраўскага героя (я асабіста яе так і не прыняла), колькі зразумець задуму рэжысёра. Пытанне, навошта спатрэбілася Б. Луцэнку сцягваць Гамлета з высокага трагічнага п'едэсталу ў пыл і бруд сучасных жыццёвых калізій, паступова праясняецца. Аднак ад разумення гэтага лягчэй не становіцца. Унутранае супраціўленне, прыцішанае асобнымі таленавіта пастаўленымі і сыгранымі сцэнамі, не знікае...

**Што б мы сёння ні глядзелі на сцэнічных падмостках, асабліва, калі гэта твор высокай класікі, мы свядома ці падсвядома суадносім яго праблемы з сучаснасцю, перапплаўляючы іх праз агульнагістарычны і асабісты жыццёвы вопыт, праз сваё светаўспрыманне. Кожны рэжысёр, працуючы над класічным творам, праходзіць складаны шлях асэнсавання існуючых традыцый, пошуку адметнага, арыгінальнага рашэння. Тут не існуе, не можа існаваць ніякіх канонаў. Прынцыпы спасціжэння класікі і павінны быць самымі рознымі, нечаканымі, эксперыментальнымі.**

**Разам з тым ёсць тое метадалагічна асноватворнае, што засталося нам у спадчыну ад сусветнага тэатра і што не страціла свайго значэння сёння. Перш за ўсё гэта вельмі простая і вельмі важная ісціна: кожны класічны твор, акрамя праблем часовых, мінуючых, што выклікаюць цікавасць чытача і гледача пэўнай эпохі, узнімае і праблемы адвечныя, якія хвалююць чалавецтва на працягу стагоддзяў. «Прыстасоўваючы» класічную п'есу да сённяшніх праблем, актуалізуючы яе не толькі шляхам парушэння вобразнай структуры твора, але і яго пераасэнсаваннем на канцэптуальным узроўні, тэатр часцей за ўсё зніжае гуманістычнае ўздзеянне класікі на гледача.**

**Нешта падобнае, на мой погляд, адбылося і ў спектаклі «Гамлет», які выклікае вельмі акрэсленыя жыццёва рэальныя асацыяцыі і пры гэтым непазбежна губляе высокі філасофскі сэнс.**

Рэжысура Б. Луцэнкі заўсёды акрэслена канцэптуальная. Можна прымаць ці не прымаць канцэпцыю ягоных пастановак, аднак у іх заўсёды дакладна выяўляецца галоўная ідэя, пamastацку пераканаўча, часам жорстка рэалізаваная рэжысёрам з дапамогай усіх выяўленчых сцэнічных сродкаў. Рэжысёрская канцэпцыя «Гамлета» рэалізуецца ў трох асноўных напрамках, адзін з якіх (Данія — турма)— абагульняючы (калі ж больш пільна прыгледзецца, дык за гэтым вобразам узнікаюць выразныя абрысы Расіі). Два астатнія з'яўляюцца вытворнымі ад галоўнага і павінны даць тлумачэнне, чаму ж сталася так, што дзяржава ператварылася ў турму. Па-першае, гэта цыклічная нязменнасць далёкай ад інтарэсаў народа вышэйшай улады; па-другое, пасіўная пакорнасць натоўпу, непраціўленне злу ці, гаворачы словамі Гамлета, «бессилие умственного тупика».

Вобраз дзяржавы-турмы вынаходліва ўзнаўляе сцэнаграфія мастака Д. Мохава. Сцэнічная пляцоўка з галерэяй і бакавымі балконамі замкнёна гарызантальнымі перакладзінамі накшталт спартыўных брусоў. Паміж імі ў нішах роспісы на біблейскія сюжэты, нечаканыя ў гэтым змрочным памяшканні. Такія ж роспісы на бакавых сценках і на празрыстай суперзаслоне. Пры адпаведным асвятленні цені ад перакладзін падаюць на боскую маці, святых, пераразаючы іх постаці і твары. Узнікае жудаснае адчуванне — быццам сама прыгажосць, духоўнасць замураваны за турэмнымі кратамі.

Знешне статычная, нерухомая канструкцыя Д. Мохава выяўляе актыўную сэнсавую дзейнасць. Прыхавана «жыве» яе задні план, дзе за галерэяй толькі пазначаны, але дакладна ўгадваюцца шматлікія лесвіцы, па якіх сноўдаюцца нейкія падазроныя асобы, удзельнікі інтрыг і палацавых пераваротаў. Патаемнае жыццё пульсуе і ў ніжнім ярусе, падзеленым на катухі, дзе лёгка хавацца, адкуль зручна назіраць. У цэнтры сцэны — люк, які вядзе ў склеп (ці ў сутарэнні-казематы?). Там знікне цень бацькі Гамлета, туды ж кароль Клаўдзій заштурхне ненавісны прывід забітага брата, у гэтай магільнай яме будзе пахавана няшчасная Афелія. Калі ж вечка люка адчыніцца, мы зноў убачым Гамлета — той як з небыцця гаротна вымавіць: «Не причащен и миром не помазан...»

Мастацкі вобраз дзяржавы-турмы дакладна асацыятыўны, што падмацоўваецца даволі «сучасным» спосабам існавання герояў. Норавы шэкспіраўскіх персанажаў у спектаклі сапраўды стасуюцца хутчэй да сумна вядомых часоў Лубянкі, чым да эпохі Адраджэння, хай сабе і позняга, больш драматычнага за ранняе. Вось, напрыклад, як паводзіць сябе Гамлет пасля сцэны з флейтай, калі Гільдэнстэрн і Разенкранц патрабуюць, каб ён пайшоў з павіннай да Клаўдзія. Прынц Дацкі, разумеючы, **што** яго там чакае, пакорліва працягвае рукі для наручнікаў. А Клаўдзій, не дачакаўшыся непакорнага пляменніка, раз'юшана ўрываецца ў пакой і зусім не па-каралеўску з усяе сілы б'е Гамлета, так што той курчыцца ад болю.

Атмасфера страху, падазронасці, культу ўлады на працягу ўсяго спектакля мэтанакіравана падтрымліваецца рэжысёрам. Носьбітам ганебнай, разбуральнай улады з'яўляецца кароль Клаўдзій, якога іграюць І. Мацкевіч і А. Аржылоўскі. Роля Клаўдзія, на маю думку, лепшая ў спектаклі. Абодва выканаўцы пры ўсёй рознасці іх індывідуальнасцей здолелі не толькі найбольш поўна выявіць рэжысёрскую задуму, але і захаваць рысы аўтарскай першаасновы вобраза.

Клаўдзій І. Мацкевіча— драпежны, вераломны, пачварна жорсткі. Ёсць у ім дзёрзкая мужчынская моц, плоцевая пажадлівая грэшнасць. Пераступіўшы мяжу ўсёдазволенасці, прадаўшы душу д'яблу, ён ідзе па крывавым шляху без ценю раскаяння, без згрызот сумлення. Нават сам-насам ён застаецца ўнутрана непахісным, быццам вышэйшая ўлада пазбавіла яго неабходнасці пакаяннай споведзі перад богам і людзьмі.

Клаўдзій А. Аржылоўскага больш гнуткі, надламаны. Гатоўнасць да злачынства і падсвядомая роспач пасля зробленага абумоўліваюць ягоны пастаянны канфлікт з самім сабой. Аднак ён добра разумее, што даравання яму няма, таму вяршыць усё новыя злачынствы ў жахлівым прадчуванні немінучай расплаты.

Акружэнне караля Клаўдзія свядома зроблена рэжысёрам. Лаэрт (С. Іваноў), Гільдэнстэрн (А. Мірошнікаў), Разенкранц (В. Рыбчынскі), Марцэл (С. Вількін) пазбаўлены індывідуальных рысаў чалавечай адметнасці. Нават Палоній (Р. Шмыроў), гранічна наблізіўшыся да характарыстыкі, дадзенай Гамлетам («не в меру шустрый», «жалкий, суетливый шут»), не набывае прыкмет хцівага, небяспечнага царадворцы, застаецца на ўзроўні дробнага местачковага інтрыгана. Усе яны толькі шэры аднастайны фон, на якім узвышаецца буйная, па-свойму трагічная постаць караля Клаўдзія. Толькі прывабны, шчыры, парывісты Гарацыо (М. Мялешка) і змрочны, замкнёны кульгавы Рэйнальда (І. Сцяпанаў) даюць больш-менш выразнае ўяўленне аб супрацьстанні двух полюсаў — дабра і зла.

Тэма ўсёдазволенасці ўлады і паслухмянасці натоўпу праходзіць праз увесь спектакль. На першым яго паказе быццам у булгакаўскім вар'етэ зверху на гледача сыпаліся шматкі паперы, дзе па-англійску было напісана «доўгае жыццё караля». Відаць, адчуўшы дэкларатыўнасць такога прыёму, рэжысёр адмовіўся ад яго. Ідэя ж адвечнага, непарушнага, нязменнага жыцця вярхоўнай улады засталася.

Першы раз яна прагучыць «у адрас» Клаўдзія, Гертруды і Гамлета. Як толькі Гамлет заб'е Палонія, прыняўшы яго за Клаўдзія, натоўп тут жа адрэагуе на гэту падзею: «Няхай жыве кароль наш Гамлет!». Калі ж высветліцца, што забіты ўсяго толькі Палоній, навакольную прастору запоўняць насцярожаныя палахлівыя воклічы: «Няхай жыве кароль наш Клаўдзій!». У сцэне, дзе змораных Клаўдзія і Гертруду агорне неспакойны сон, па патаемных лесвіцах у спальню бясшумна пранікнуць маўклівыя змоўшчыкі і пад злавесны шэпт «Няхай жыве кароль наш Лаэрт!» звяжуць каралеву і караля. І нарэшце ў фінале, калі загінуць усе героі трагедыі, цвярозы голас некалькі разоў паўторыць: «Няхай жыве кароль наш Фартынбрас!».

Пры гэтым відавочна, што натоўпу ўсё адно, хто будзе правіць. За п'янствам і распустаю людзі абыякава ставяцца да гібення сваёй дзяржавы. Нават цень бацькі Гамлета, які ў адзіноце блукае сярод вакханаліі, нібы заклінаючы апамятацца, выклікае ў людзях толькі кпіны і смех.

Якое ж месца ў сістэме сцэнічных вобразаў займае Гамлет? Гэту ролю іграюць два выканаўцы — Ю. Казючыц і В. Січкар. Іх трактоўкі шмат у чым адметныя, тым не менш агульны маральны вынік аднолькавы. Справа не ў тым, што Гамлет у спектаклі не нагадвае ні прыгажуна арыстакратычнага паходжання, ні рамантычнага героя. (Дарэчы, і ў Шэкспіра сам Гамлет, параўноўваючы бацьку з Клаўдзіем, гаворыць, што дзядзька «на отца похож, не более, чем я на Геркулеса». Каралева-маці заўважае пра сына: «Он тучен и одышлив...»). Справа ў іншым. Гамлет на сцэне страціў сваю духоўную прыгажосць, унутраную азоранасць, веру ў гуманістычныя ідэалы. Пазбаўлены промняў святла, высакароднасці, неадольнай прагі справядлівасці, прынц Дацкі аказаўся прыроўненым да шэрага асяроддзя, стаў плоцццю ад яго плоці.

Гамлет Ю. Казючыца, інфантыльны, бездапаможны, разгублены, як і Гамлет В. Січкара, мізэрны, кволы, несамавіты; абодва выклікаюць пачуццё жалю сваёй закамплексаванасцю, прымітыўнасцю ардынарнай натуры. «Век расшатался — и скверней всего, что я рожден восстановить его!» — гучаць знакамітыя словы, але сцэнічны герой не толькі няздатны аднавіць пахіснутае стагоддзе, а, мяркуючы па ўсім, «маленькім вінцікам» сам бярэ ўдзел у ягоным разбурэнні.

У сцэнічнай інтэрпрэтацыі Б. Луцэнкі няма той сілы, якая хоць бы спрабавала б процістаяць злу. І Гамлет не з'яўляецца выключэннем. А калі так, дык неабходна крыху «дапрацаваць» Шэкспіра, таму што яго п'еса, паводле вызначэння А. Анікста, «не трагедыя роспачы перад злом, а трагедыя аб прыгажосці і мужнасці чалавека, які не мог жыць інакш, як у непрымірымай барацьбе са злом». І рэжысёр «дапрацоўвае»...

Ад часоў Шэкспіра практыкі і тэарэтыкі, буйнейшыя таленты свету вырашаюць: чаму Гамлет вагаецца і не помсціць нават тады, калі віна Клаўдзія даведзена? Найбольш распаўсюджаныя меркаванні накшталт: Гамлет разумее, што забойства Клаўдзія не выратуе свет ад заганаў; Гамлет наогул не здатны на злачынства, ён забівае толькі ў тым выпадку, калі абараняецца; Гамлет упэўнены, што гвалт, хай сабе і ў імя справядлівасці, не можа слугаваць дабру...

**Усе гэтыя інтэлектуальныя варыянты застаюцца па-за кантэкстам спектакля. Вось як вырашаецца праблема маральнай гатоўнасці Гамлета да забойства. У п'есе прынц пранікае ў пакой Клаўдзія, калі кароль моліцца, і адмаўляецца ад помсты ў гэты момант: «...и буду ль я отмщен, сразив его в душевном очищенье, когда он в путь снаряжен и готов?» У спектаклі Клаўдзій пасля малітвы валіцца ў ложак (як у бярлог), нацягвае коўдру на галаву. З мячом напагатове з'яўляецца Гамлет, і ў глыбіні спальні раптам... заўважае Палонія. Прынц паспешліва ўцякае... Відавочна, яго ўцёкі абумоўлены не драматычным разладам паміж неабходнасцю выканаць доўг і няздольнасцю на злачынства, а ўсяго толькі знешняй перашкодай...**

**Характэрная і другая сцэна — забойства Палонія, вырашаная даволі натуралістычна. Гамлет навальваецца на сваю ахвяру, і калі ўсё скончана, мы заўважаем, што яго рукі, твар, аголены торс — як у мясніка перапэцканы крывёю. Узнікае паралель з эпізодам, калі камедыянты, трапіўшы ў Эльсінор, разыгрываюць паядынак паміж Пірам і Прыамам. (Акцёр, які выконвае маналог, пасля слоў пра забойства Прыама таксама шчодра пэцкае сябе чырвонай фарбай). Гамлет у крыві Палонія і камедыянт у «крыві» Прыама міжволі тоесняцца, зводзячы трагічны сэнс падзеі да ўзроўню грубага балагана.**

**У такой жа танальнасці падаецца ў спектаклі адзін з самых важных філасофскіх шэкспіраўскіх маналогаў «Быць ці не быць...» Гамлет вымаўляе яго лежачы на падлозе (прычым першыя словы прамаўляе ў мікрафон, а калі эфект узмацнення знікае, словы гучаць цьмяна, невыразна).**

Побач з Гамлетам асабліва кантрастна выглядае Афелія (Н. Курсевіч). Грацыёзная, узнёслая, вельмі прывабная, яна ўспрымаецца істотай незямной, летуценным парываннем, марай. Здаецца, навакольны бруд, хцівасць, падман не кранулі яе цнатлівасці, чысціні. Гамлету са спектакля Б. Луцэнкі не патрэбна такая Афелія. А каб не ўзнікла супярэчнасці з шэкспіраўскім тэкстам, рэжысёр пераманціруе яго, падганяючы пад сваю схему. Яшчэ не адкрылася Гамлету тайна забойства бацькі, яшчэ не пераканаўся ён, што Афелія — сляпая прылада ў руках Палонія і Клаўдзія, а прынц дазваляе абразліва вольна паводзіць сябе з каханай. Словы («Сударыня, можно к вам на колени?», «А ведь это чудесная мысль, лежать у девушки между колен»), якія вымаўляе «страціўшы розум» Гамлет у сцэне мышалоўкі, перанесены на пачатг спектакля...

Разам з тым ёсць у пастаноўцы асобныя эпізоды, моманты, дэталі, якія не проста дораць эстэтычную асалоду, эмацыянальна хвалююць, а і захапляюць глыбінёй рэжысёрскай думкі. Я не ведаю, каму належыць першаадкрыццё элементу мастацкага афармлення — крэслаў з празрыстымі спінкамі — Б. Луцэнку ці Д. Мохаву, але знаходка зрабілася сапраўднай каштоўнасцю спектакля. Дэталь гэта шматфункцыянальная і надзвычай метафарычная. Празрыстая плоскасць абыгрываецца як звычайнае акенца і люстэрка, як непераадольная мяжа адчужэння паміж людзьмі і як века труны, праз якое з дакорам глядзяць на нас з небыцця далёкія продкі.

Да ўдалых аднашу я і сцэну з магільшчыкамі, сыграную А Цярпіцкім і А. Кашпераўым далікатным адчуваннем яе ёмістых падтэкстаў. Выразна пластычна перадае Н. Курсевіч гібель Афеліі. Вынаходліва ўвасоблены і сцэны з камедыянтамі. Асабліва запамінаецца балада, якая ў алегарычнай форме распавядае аб жыцці чалавека ад яго нараджэння да смерці. На добрым тэхнічным узроўні выкананы паядынак Гамлета і Лаэрта.

Рэжысёрскі спектакль зроблены вельмі прафесійна. Ён вылучаецца арганічнай злітнасцю ўсіх мастацкіх кампанентаў. І ўсё-ткі я шмат з чым не магу пагадзіцца. Прызнаючы права рэжысёра на свой індывідуальны, хай сабе і трагічны погляд на свет, я не прымаю разумення жанру трагедыі толькі з пункту гледжання трагічнага нізкага і адмаўлення трагічнага ўзвышанага.

Што ж да канцэпцыі спектакля, дык яна, на маю думку, крыху састарэла. Напэўна, на пачатку 80-х гадоў такі «Гамлет» успрымаўся б смелым і звышактуальным. Сёння ж, сутыкаючыся з класікай, перад адвечным і сучасным аддаваць перавагу злабадзённаму і толькі злабадзённаму — ці не азначае гэта непамерна збядняць яе глыбінны сэнс? І, як вынік, пазбаўляць шэкспіраўскага Гамлета ў XX стагоддзі пакутлівага роздуму, пошукаў ісціны, высакародных памкненняў змагацца за ідэалы ў імя справядлівасці і дабра...

Тамара **ГАРОБЧАНКА.**

# РЭКВІЕМ ПА ДРУГУ

**КАБ ВЫ ТОЛЬКІ ВЕДАЛІ**, як баліць сэрца, калі даводзіцца пісаць пра незабыўных сяброў. Яны назаўсёды засталіся маладымі. Іх цяпер далікатна і сарамліва называюць «людзьмі трагічнага лёсу».

І вось яшчэ адзін паступаўся друг і нагадаў пра сябе круглаю датаю нараджэння. **ЮРКА ЛЯВОННЫ.** Так, вам нічога не гаворыць гэтае імя, а мяне апаноўваюць такія ўспаміны, што вось ужо колькі дзён жыву зусім у іншым вымярэнні падзей і часу.

Імя Юркі Лявоннага ў 20—30-ыя гады ўсё часцей і часцей мільгала ў друку: нізкі вершаў у магілёўскім альманаху «Дняпроўскія ўсплёскі», у «Маладняку», «Чырвонай змене», «Звяздзе», бабруйскай «Вясне». Яно часта стаяла пад вершаванымі рэпартажамі і ўзнёслымі нарысамі ў стылі гіпербалізаванай рыторыкі тае пары пра Асінбуд, пра будаўніцтва на Цішоўскім пустыры Магілёўскай шоўкавай фабрыкі. Адна за адною выходзяць кніжкі Лявоннага «Камсамольскія вершы», «Штурм», «Жалезныя віхуры» ,«Разбег», «Стала і мужна», нарысы «Крок пяцігодкі». Ужо назвы гавораць самі за сябе. Гэта—даніна часу, даніна модзе па неабходнасці і шчырым наіўным захапленні «музыкай турбін». Лявонны гэта і сам добра разумеў:

> Часам напомняць
> «сябры і сяброўкі»:
> — Ў балота агітак, ты,
> братка, зайшоў:
> Чаму ў цябе метрам—
> паэт а-ля Броўка?
> Куды лепей Таўбін
> ці Куляшоў!

Па сваёй сутнасці Лявонны быў лірык, тонкі і рамантычны. У гэтым пераконвае хоць бы верш «Тая восень».

> ...Мне было ў
> семнаццатым—
> семнаццаць.
> Люба босай бегаць
> па расе.
> Зацвіталі астры
> ля палацу,
> Пунсавелі астры
> на страсе...

Але паэт мусіў станавіцца на «горла ўласнай песні» і прызнавацца:

> Любоўную лірыку
> цяжка пісаць,—
> Яе не бярэ
> выдавецтва.

Больш таго, яна лічылася ўпадніцкай, антыграмадскай і нават антысавецкай. У гады штурмаў, ударных вахтаў, аўралаў, баявых пастоў кіраўніцтва, крытыкі і друк патрабавалі бадзёрай рыторыкі, якая адразу ішла на газетную паласу. Пісалі пра пакуты зарубежных працоўных і беспрацоўных, пра Конга, Парыж, Каір, Берлін, хоць самі на Захадзе далей Негарэлага ніколі не былі. Пэўную даніну гэтай тэматыцы аддаў і Юрка Лявонны.

*Хто ж ён і адкуль?* Нарадзіўся ў Чавусах 29 ліпеня 1908 года. Бацькі, як тады казалі, «саўгандальслужачыя» мелі свой дамок і садок. Па метрыцы і пашпарту ён — Леанід Мікалаевіч Юркевіч. Мода на псеўданімы нібыта адразу сур'ёзна далучала да літаратуры. Спакусіўся і шаснаццацігадовы падлетак перакруціць сваё імя на прозвішча, а прозвішча на імя, і ў 1925 годзе з'явіліся вершы за подпісам — Юрка Лявонны. Скончыў ён Магілёўскі педтэхнікум, а ў 1934 годзе Мінскі педінстытут. Вось, бадай, і ўся анкетная біяграфія. А жыццёвая — куды складаней і трагічней.

Вершы Лявоннага я запомніў ці не з першых публікацый, а пазнаёміўся з ім, калі прыехаў у Мінск у 1931 *годзе і пачаў блукаць па рэ*дакцыях у пошуках удачы, праціраць цыратовыя канапы ў Доме пісьменніка, сустракацца з вядомымі і маладымі літаратарамі. Нас тады ніхто не знаёміў. Знаёміліся самі, а малады, статны і прыгожы юнак, трошкі артыстычнага складу, з густымі каштанавымі валасамі, у шчыгульным шэрым касцюме ў дробную клетачку, у белай кашулі з модным гальштукам кватараваў са мною амаль па суседству. Гэта і быў Юрка Лявонны. Мы часта разам ездзілі ў трамваі да Даўгабродскай вуліцы, ішлі па маім, ужо даўно не існуючым, Трамвайным завулку. Я зварочваў у брамку і ішоў у свой маленькі катушок, наняты ў доўгім драўляным доме. Часам, загаварыўшыся, праводзіў Юрку трохі далей, на вуліцу Фурмана, дзе цяпер Пугачоўская. І Лявонны жыў у маленькім пакойчыку ў прыватным доме. У ім, апрача ложка, этажэркі, канапкі і малога століка, была... мілая, улюбёная ў паэзію жонка Жэня, артыстка Тэатра рабочай моладзі. Але яна ўжо адыграла сваё: сарвалася з тэатральнай канструкцыі, зламала нагу і стала толькі гаспадыняю і добрай дарадчыцай паэта.

Неўзабаве мы сталі з Юркам блізкімі сябрамі: хадзілі адзін да аднаго без папярэджанняў і запрашэнняў. Ён працаваў у рэдакцыі «Звязды» і адначасова вучыўся на крытычна - творчым аддзяленні літфака педінстытута, я быў стыльрэдактарам і адказным за літаратурныя старонкі ў «Чырвонай змене» і студэнтам газетна - выдавецкага аддзялення педінстытута. Юрка вучыўся курсам вышэй за мяне, мы часта разам ездзілі на заняткі, на перапынках шпацыравалі па доўгіх калідорах. У адной групе з Лявонным вучыліся Валеры Маракоў, Зяма Півавараў, Эдзі Агняцвет, Цімох Зарэчны, Пятро Хатулёў, Станіслаў Шушкевіч, а на літфаку — добрая тузіна маладых літаратараў, з *паламанымі потым*, трагічнымі лёсамі.

Вучэнне нам не замінала часта адлучацца ў камандзіроўкі. Асабліва аператыўным карэспандэнтам быў Лявонны. У 1934 годзе «Звязда» даручыла яму і мне падрыхтаваць разварот пра дасягненні новых МТС і палітаддзелаў пагранічнай Полацкай акругі. Мы прыехалі снежнаю зімою ў скарынінскі Полацк. Там яшчэ не сцерліся сляды слаўнай даўніны. У Полацку тады працаваў сакратаром рэдакцыі акруговай газеты ўжо вядомы аўтар аповесці «Тэорыя Каленбрун» Эдуард Самуйлёнак. Ён прыходзіў вечарамі ў наш гасцінічны нумар—высокі белатвары, з «лордаўскім» носам, у вялікіх рагавых акулярах. Часта нашы гаворкі *зацягваліся далёка за поўнач*. Дасведчаны Эдуард быў лідэрам у размовах і пераможцам у спрэчках. У грубцы смажылася сялянская каўбаса, і мы пад яе сёе-тое пілі, па купалаўскаму рэцэпту, разбаўляючы нарзанам. Даразбаўляліся, што не выстарчыла на чыгуначны білет і давялося ісці ў пазычкі. Затое разварот выйшаў пра суцэльныя поспехі і дасягненні—баявы і ўзнёслы.

У 1935 годзе мы з Лявонным пачалі працаваць у вельмі дружнай рэдакцыі грамадска - палітычнага вяшчання радыёкамітэта. Гуказапісу яшчэ не было. Рэпартажы са святочных дэманстрацый і парадаў мы вялі адразу ў эфір, затое яны былі жывыя, непасрэдныя і цікавыя. З Юркам мы скалясілі амаль усю тады яшчэ не вялікую рэспубліку. Я слухаўся і паважаў старэйшага таварыша, а ў яго пакоі быў амаль членам сям'і. Кожная сустрэча ператваралася ў вечары паэзіі: азіраючыся, чыталі вершы высланых Дубоўкі і Пушчы, шэптам—Ясеніна, голасна — Маякоўскага, Пастарнака, Багрыцкага, Лугаўскога, Цiханава. Узялі ў выдавецтве пераклад рамана Жуля Верна, падзялілі яго напал і шчыравалі над беларускім тэкстам.

Усім тады жылося галаднавата, беднавата, няўтульна, але весела, і вершы пісаліся бадзёрыя, аптымістычныя, на высокай ноце моднай тады патэтыкі. Апрача паэзіі, Лявонны сур'ёзна захапляўся шахматамі і гадзінамі праседжваў у Доме пісьменніка за фігурамі ў паядынках з Аркадзем Куляшовым і Зэлікам Аксельродам. Позняй восенню 1935 года мы паехалі ў пагранічную Дрысу. З акна сакратара райкома Кацельнікава глядзелі, як на другім беразе Дзвіны палошчуць бялізну нашы зямлячкі пад уладаю панскай Польшчы. Начамі ў пустой і халоднай местачковай хаце, названай гасцініцай, перакладалі паэму Дзям'яна Беднага «Галоўная вуліца». А дома Юрку чакала радасць — нарадзілася дачка, і назвалі яе Інай.

Так мы дружна і весела жылі , пакуль не насунуўся страшны «хапун». Беларускія пісьменнікі пачалі знікаць у 1930, 1933, а самая вялікая і бязлітасная «праполка» настала ўвосень 1936 года. Спытаеце, чаму раней, чым у іншых рэспубліках. Мы ж заўсёды былі перадавымі, а тут яшчэ геаграфічная асаблівасць — суседства з панскаю Польшчай. Раптам збяруцца пісьменнікі, адарвуць Беларусь і далучаць да Жэчы Паспалітай. Вось і пачаўся «хапун»: начамі знікалі адзін за адным партыйныя і беспартыйныя, члены ЦК, ураду і пачаткоўцы. У кожным доме да раніцы *прыслухоўваліся* да стуку, рыпу, гулу машыны, трымалі пакуначкі з бялізнаю ў чаканні «чорнага ворана». І ён не затрымліваўся, забіраў кожную ноч. Забраў мяне, знік і Лявонны. Больш мы не сустракаліся ніколі.

Год праседзелі пад «следствам», напэўна, у суседніх адзіночках і камерах, вадзілі нас на допыты па адных калідорах, круцілі, ламалі, выцягвалі душу «на канвеерах», а пабачыцца так і не давялося.

У верасні 1937-га мяне перавялі ў гарадскую, кацярынінскіх часоў, турму і кінулі ў агульную камеру. Якраз пад ёю, акно над акном, у сутарэнні сядзеў Юрка Лявонны. Вокны забіты так званымі «наморднікамі». Святло падала толькі зверху, а гук ішоў угору. Мы адразу пачалі з Юркам перагаворвацца. Яму прыпісалі некалькі страшных артыкулаў, а ён толькі пасмейваўся, што ўсё гэта глупства, няма ніякай зачэпкі для абвінавачвання, суцэльная хваравітая фантазія следчых. Суд разбярэцца, усё рассыплецца пылам, і мы хутка сустрэнемся дома. Ён быў заўсёды аптымістам, і не хацелася расчароўваць яго скепсісам.

Лявоннага ведала ўся турма і кожны досвітак чакала яго выхаду «ў эфір». Нас, «*палітычных*», адразу пазбавілі кніг і газет. На апошнім паверсе сядзелі непаўналетнія злачынцы. Іх старанна перавыхоўвалі — давалі газеты і чыталі кнігі, але не дазвалялі курыць. Лявонны *з імі ўстанавіў сувязь:* на досвітку дыктарскім голасам гукаў: «Атанда! Давай каня». Праз якую хвіліну на звязаных матузках спускаўся скрутак газет проста ў «наморднік» Юркавай камеры, а назад па сігналу «трымай!» узнімаўся пачак махоркі. Неўзабаве з падвальнага акна чуўся выразны, добра пастаўлены голас Лявоннага: «Увага! Слухайце навіны». І пачынаўся сціслы агляд газетных паведамленняў, потым ён пераходзіў да турэмных навін: каго выклікалі на допыт, хто на каго накляпаў, каго арыштавалі. З асаблівай асалодаю ён паведаміў, што былы пракурор Глезер, які падпісваў на нас ордэры, на трэцім паверсе турмы выносіць парашу. Кожны досвітак, пакуль драмалі наглядчыкі, турма слухала «перадачы» Лявоннага.

Прыкладна ў канцы верасня Лявонны «не выйшаў у эфір». Усе ўстрывожыліся. Выстукваю «бястужаўкай» у яго камеру: «Дзе Юрка? Чаму маўчыць?». Адказ: «Выклікалі на суд без рэчаў». Назаўтра зноў маўчыць шостая камера, на наступны—таксама. *Праз чатыры дні паведа*мілі з сутарэння: «Не вярнуўся. Забралі рэчы».

У тую восень у Мінск прыехала Ваенная калегія Вярхоўнага суда СССР на чале з крывавым вурдалакам Ульрыхам. І закруцілася чалавечая сячкарня. На судзе размова была кароткай: «Прызнаеце сябе вінаватым у прад'яўленым абвінавачванні? Не? Ведаеце, калі вораг не здаецца, яго знішчаюць. Гэта сказаў вялікі гуманіст Горкі». І выносілі для ўсіх адзін прысуд — расстрэл.

Так і Лявоннага ў «*чорным воране*» *павезлі*, напэўна, у Курапаты. А за ім, 29 кастрычніка туды даставілі Галавача, Вольнага, Каваля, Маракова, Харыка, наступным—і ліку няма. Тонкі лірык, да наіўнасці даверлівы і шчыры Валеры Маракоў, як не выбівалі з яго следчыя «прызнанне», нічога не падпісаў і ўсё адно стаў пад кулю нейкага натрэніраванага на людскіх патыліцах «варашылаўскага стралка».

У даведніку «Пісьменнікі Савецкай Беларусі» надрукавана, што Лявонны памёр 13 снежня 1943 года. Не верце! Яго расстралялі ў верасні 1937-га, а пасля пасмяротнай рэабілітацыі пісары з таго самага міністэрства ставілі ў даведках любыя даты смерці, каб схаваць злачынствы і падтасаваць іх на час вайны. І яшчэ ёсць адзін пэўны доказ: жонку кожнага расстралянага абавязкова арыштоўвалі і па не існуючым ні ў адным кодэксе артыкуле «член сям'і здрадніка радзімы» адпраўлялі ў лагер на восем гадоў. Прайшла гэты страшэнны шлях і жонка Лявоннага. Вызваліўшыся пасля вайны, па ўсіх прытулках для дзяцей «ворагаў народа» шукала і не знайшла дачку. Ім часта давалі іншыя прозвішчы. Пазней Жэня мне паказвала пажоўклы здымачак трохгадовай «*злачынцы*» і берагла яго, як абразок. Сама яна больш за год жабрачыла па рынках Украіны: спалоханая радня адвярнулася, «кадравікі» не адважваліся браць на работу. Нарэшце прыбілася ў *Магілёў*, працавала на швейнай фабрыцы. Пішу ёй, але адказаў даўно няма.

Юрку Лявоннаму гэтым летам было б 80 гадоў, а пражыў ён усяго 29. Сапраўды, «колькі талентаў звялося!» Чаму? За што? Каму было трэба?

Усё, што вы прачыталі, я прагаварыў сам сабе і запісаў у Батанічным садзе. Пісаў і глядзеў, як гарэлі ўсімі колерамі высакародныя гладыёлусы, ружы ўсіх гатункаў і адценняў, пацяжэлыя пад расою півоні і вяргіні і мноства не знаёмых мне кветак. Многім з іх прысвоены імёны вядомых людзей. І падумалася: а на месцы гібелі сумленнейшых пакутнікаў няма ні магіл, ні кветак. Толькі сям-там бялеюць курапаты. Дзіўна, чаму яны дасюль не сталі крывава-барвовымі.

Чалавек жыве, пакуль яго *памятае* хоць адзін сучаснік. Але з нашым адыходам не павінна сцерціся памяць ахвяр сталінскага тэрору. Неабходна, каб іх імёны, як крык, звернуты да ўсіх людзей, ускрэслі на мармуры і граніце—на *помніках* і мемарыялах не толькі ў Маскве, Магадане, Нарыльску, Варкуце, а і ў Мінску, у жалобных Курапатах, на не знойдзеных яшчэ, зраўняных з зямлёю безыменных брацкіх магілах. Колькі іх, зарослых паўвекавым лесам, ужо не скажа ніхто.

З нагоды жалобнай даты майго даўняга друга зноў і зноў нізка схіляюся перад памяццю і прахам усіх ахвяр, з якімі быў разам і мог знікнуць, як яны. Лёс наканаваў помніць і расказаць.

Вечная ім памяць.

**Сяргей ГРАХОЎСКІ.**

Ганарар прашу пералічыць на рахунак 700454—на будаўніцтва мемарыяла ахвярам сталінскага тэрору.

АЎТАР.

## З ПОШТЫ «ЛіМа»

# МЫ ТАНЦУЕМ І ПЯЁМ

Мінула ўжо восем гадоў, як у нашым горадзе пры агульнаадукацыйнай СШ № 2 адкрылася аддзяленне харавых спеваў. Так пачалася біяграфія школьнага хору, які пазней атрымаў назву «Равеснікі» і званне «ўзорны». Першым кіраўніком яго быў А. Шут — дасведчаны і ўдумлівы педагог. Пад яго кіраўніцтвам калектыў дасягнуў нямала. Сфарміраваўся разнастайны рэпертуар, паступова павялічыўся колькасны склад хору, павялічылася колькасць выступленняў. Канцэрты ў горадзе зрабіліся рэгулярнымі, хор пачаў выступаць і за межамі Барысава. Наладзіліся цесныя творчыя сувязі з прафесійнымі выканаўцамі і калектывамі. Летась адбыўся першы выпуск навучэнцаў, якія прайшлі музычна-харавую падрыхтоўку.

З пачатку гэтага навучальнага года новым мастацкім кіраўніком прызначылі маладога выкладчыка, выпускніка Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі В. Шыкаўца. Ён з вялікім імпэтам узяўся за работу, каб не толькі прадоўжыць лепшыя традыцыі калектыву, але і ўнесці сваё, адметнае. У кастрычніку 1987 г. узорны хор «Равеснікі» запрасілі ў Мінск для ўдзелу ў другім свяце дзіцячай харавой музыкі, дзе ён быў прызнаны адным з лепшых. Удалым было і выступленне хору ў канцэрце майстроў мастацтваў і калектываў *мастацкай самадзейнасці* Беларусі для ўдзельнікаў урачыстага сходу, прысвечанага 70-годдзю Вялікага Кастрычніка. І, нарэшце, — выступленне «Равеснікаў» на заключным канцэрце лаўрэатаў і дыпламантаў II Усесаюзнага фестывалю народнай творчасці, прысвечанага 70-годдзю Вялікага Кастрычніка. Дарэчы, у тым жа канцэрце ўдзельнічаў і танцавальны калектыў нашай СШ № 2.

І калі ўжо гаворка тут зайшла пра танцавальны калектыў, то трэба адзначыць, што харэаграфічнае аддзяленне было адкрыта пры школе тры гады назад. За гэты час калектыў заваяваў вялікую папулярнасць не толькі ў сваім горадзе, неаднаразова ўдзельнічаў у гарадскіх, занальных, абласных і рэспубліканскіх аглядах, атрымаў званне лаўрэата II Усесаюзнага агляду-конкурсу калектываў мастацкай самадзейнасці. А за пастаноўкі беларускіх народных танцаў «Сплюшка» і «Жаваранчкі», прадстаўленыя на I Рэспубліканскі конкурс балетмайстраў, кіраўнік Н. Буйно была ўдастоена першай прэміі. Гэта сапраўдны поспех маладога педагога.

Беларускае тэлебачанне правяло здымкі лепшых самадзейных калектываў СШ № 2: хору «Равеснікі», танцавальнага калектыву, хору хлопчыкаў (*кіраўнік Л. Юрчанка*), *хору піянерскай песні*, салістаў.

**Генадзь МЕЛЬНІКАЎ**, выкладчык музыкі СШ № 2.

г. Барысаў.

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР. Минск. На белорусском языке.

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць раз на тыдзень, па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Індэкс 63856 П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
АТ 09657 М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.

ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай рэдакцыі — 33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара — 33-25-25, адказнага сакратара — 33-19-85, аддзела публіцыстыкі і нарыса — 33-19-65, аддзела пісьмаў — 33-19-65, аддзела крытыкі і бібліяграфіі — 33-22-04, аддзела прозы і паэзіі — 33-22-04, аддзела тэатра, кіно і тэлебачання — 33-21-53, аддзела музыкі — 33-21-53, аддзела выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў — 33-24-62, аддзела народнай творчасці і культасветработы — 33-24-62, аддзела інфармацыі — 33-24-62, аддзела мастацкага афармлення і фотаілюстрацый — 33-44-04, 32-24-62, карэктарскай — 32-20-64, бухгалтэрыі — 23-73-37.

Матэрыялы прымаюцца надрукаванымі на машынцы (праз два інтэрвалы). Рукапісаў рэдакцыя не вяртае.